ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

18 красавіка 1997 г. № 16/3892 Кошт 3 000 руб.





*Вось ізноўку вясна, і цяпло пацякло,*
*І сплывае па рэчцы зіма ў небыццё,*
*І на дрэвах высокіх выспявае святло,*
*І, як вецер, праз нас пралятае жыццё...*

Фота Г. ЖЫНКОВА

# Садружнасць, Супольніцтва, Саюз...

***1. Ваша стаўленне да інтэграцыі Беларусі і Расіі ўвогуле.***
***2. Ваша ацэнка падпісаных 2 красавіка ў Маскве дакументаў і прапанаванага да ўсенароднага абмеркавання Статута Саюза Беларусі і Расіі.***
***3. Вашы меркаванні наконт перспектыў расійска-беларускіх адносін і ў звязку з гэтым — будучыні незалежнай Беларусі.***
***На пытанні "Ліма" адказваюць:***

**Жана ДАПКЮНАС, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы:**

— За інтэграцыю **толькі** эканамічную, на аснове раўнапраўя, павагі суверэнітэту і нацыянальных інтарэсаў, узаемнай выгады і таварыскай дапамогі — у рамках міжнароднай практыкі суіснавання дзяржаў. Інтэграцыя ў культуры не можа быць, бо гэта прывядзе да страты тоеснасці, аблічча беларускай нацыянальнай культуры. Культурнае супрацоўніцтва з усімі славянскімі народамі неабходна дзеля прагрэсу сусветнай супольнасці. Палітычная ж інтэграцыя, пра якую вельмі актыўна гавораць расійскія СМІ, прывядзе да страты суверэнітэту, незалежнасці Беларусі.

Хочацца тут нагадаць выказванне Янкі Купалы 1919 года: "...Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі". "І для Беларусі, як ні быў цяжкім мінулы год у яе змаганні за сваю дзяржаўную незалежнасць, а ўсё ж такі ён шмат чаму навучыў, і шмат каму з беларускага грамадзянства адкрыў вочы, асепленыя тымі ці іншымі утопіямі і абяцанкамі".

Што да культурнага супрацоўніцтва, то яно і сёння не мае перашкод. Музей Купалы супрацоўнічае, сябруе з профільнымі ўстановамі Расіі, Латвіі, Украіны, Літвы і нават Германіі і Англіі. Адзіная праблема — наяўнасць фінансавых сродкаў. А Расія грошы нам не дасць, бо ёй самой не стае, іх мы павінны зарабіць самі, тут, на Беларусі.

Працэс інтэграцыі з Расіяй праводзіцца ўпохапкі, наскокам. Спачатку падпісалі асноўны дакумент інтэграцыі, а потым прадставілі на абмеркаванне. І што можа даць гэта абмеркаванне, як будуць улічвацца розныя думкі — гэта ж не рэферэндум? А справа гэта вельмі сур'ёзная і адказная і не павінна вырашацца за ўвесь народ толькі яго палітычнымі кіраўнікамі. Бясспрэчна, што развіццё эканамічных стасункаў, і не толькі з Расіяй, узаемавыгадных дамоў па выхадзе з гаспадарчага крызісу, аднаўлення работы профільных прадпрыемстваў, галін вытворчасці, скразныя пастаўкі, тэхнічнае ўдасканаленне — усё гэта павінна праводзіцца дзеля дабрабыту людзей, росквіту рэгіёнаў, а не дзеля палітызацыі сужыцця для рэанімацыі скампраметаваных у хадзе гісторыі ідэалагічных догмаў, утапічных тэорый. Звернемся зноў да Купалы: "І вось калі ўдумацца ва ўсё гэта, то мы ўбачым, што кожная такая дзяржава, якая за рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель. І якімі прыгожымі не прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзенае нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, — усё гэта будзе падманам".

Спадзявацца на тое, што пасля прадэкларыванай інтэграцыі з Расіяй на Беларусі стане лепшае, багацейшае жыццё, нерэальна. Мы ведаем, што ў Расіі сітуацыя не менш складаная, а, можа, і больш. "Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі для сябе... Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй Бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?.. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. А які ж мы дадзім адказ, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем?" Гэта — таксама Купала.

Суверэнныя дэмакратычныя дзяржаўныя ўтварэнні, у тым ліку і парасткавая незалежнасць Беларусі — новы віток незваротнага працэсу цывілізаванага развіцця народаў на руінах былога СССР, рэанімаваць які нязбройным шляхам немагчыма. Развіццё руска-беларускіх адносін, узаемадачыненняў можа ісці паводле крытэрыяў гуманізму, раўнапраўя, павагі да незалежнасці і нацыянальных каштоўнасцяў кожнай краіны — дзеля ўзаемаўзбагачэння і ўзвышэння кожнай асобы, кожнай нацыі, усяго славянскага свету. "І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу". І гэта — Купала!

**Уладзімір Мехаў, пісьменнік:**

— Слухаю афіцыёзных салаўёў нашага тэлебачання. Праглядаю прэсу афіцыёзна-салаўінай арыентацыі. Слова "інтэграцыя" цяпер у іх сінонімам словаў "братэрства", "спрадвечная дружба", "еднасць". Божачкі, ды хто ж у Беларусі супраць дружбы і братэрства з Расіяй?! Не кажу пра шмат што іншае, чым народы нашы звязаны, скажу толькі (адказваю ж на пытанні газеты творчай інтэлігенцыі!), што няма ў нас пісьменніка, мастака, артыста, музыканта, які б сфармаваўся не ў полі дабратворнага ўплыву вялікай рускай культуры.

Але ж тэрмінам "інтэграцыя" ў дадзеным выпадку прыкрываецца іншае. Непажаданае, небяспечнае. Салаўіныя пералівы — гукавая гэтаму маскіроўка. І людзі, якіх замаскаванае трывожыць, выходзяць у пратэстным шэсці. А шэсцю перагароджваюць дарогу шарэнгі шчытаносцаў з дубінкамі. Як многа іх, аказваецца, Беларусь змушана карміць-паіць! Як падобныя яны на "псоў-рыцараў" з фільма Сяргея Эйзенштэйна пра бітву на Чудскім возеры!

Дубінка апускаецца на жаночыя плечы. Запіхваюцца ў машыны з закратаванымі аконцамі пенсіянеры і школьнікі. Крывавіцца аб асфальт твар немаладога кінематрафіста, які кінуўся на дапамогу дачцэ-журналістцы...

Калі такое адбываецца, ці не выбудуецца інтэграцыя храмам на крыві? А светлай, радаснай, ачышчальнай малітвы ў гэтым храме быць не можа.

**Павел КАСЕНКА, выкладчык Гродзенскага універсітэта:**

— Я не супраць інтэграцыі, але толькі ў тым выпадку, калі інтэграцыя не будзе абмяжоўвацца Расіяй. Інтэгравацца трэба з усім светам. Я — гарадзенец. Расія для мяне нешта даволі далёкае і няўцямнае, а Польшча — вось яна, побач, за ваколіцай Гродна. А там ужо і Германія, Бельгія, Галандыя недалёка. І, дальбог, на Захадзе ёсць што паглядзець і чаму павучыцца. Я за развіццё эканамічных і іншых стасункаў з Расіяй, толькі калі гэта не пашкодзіць нашым стасункам з Еўропай. Увогуле мне не падабаюцца разважі, кшталту: "альбо Расія, альбо Захад". Разумны палітык здолее паставіць над усім інтарэсы Беларусі і не ўвязвацца ў расійскі-натаўскі канфлікт; здолее захаваць нейтралітэт, дэклараваны ў нашай Канстытуцыі.

Я не надта веру ва ўсялякія "рэферэндумы" і "ўсенародныя абмеркаванні". Улада сабе не вораг і таму дазваляе "ўсенароднае волевыяўленне" толькі тады, калі трэба падмацаваць "рэферэндумам" ужо прынятае наверсе рашэнне і калі яна здольная арганізаваць патрэбныя ёй 99,9% "за".

Калі "інтэграцыя" будзе развівацца па сцэнарыі, закладзеным у "Статуце Саюза Беларусі і Расіі", Беларусь страціць суверэнітэт і на некаторы час знікне з палітычнай карты Еўропы, перастане быць суб'ектам міжнароднага права. Але Расія з гэтага нічога не прыдбае, акрамя новых праблем. Пры такім сцэнарыі Беларусь паўторыць лёс краін Балтыі, акупаваных СССР у 1940 годзе. Незалежнасць з часам будзе адноўлена, але праз вялікія намаганні і страты.

ЭКСЛІБРЫС

## Праспект

*Нямецкая прапаганда на Беларусі. 1941—1944.*
*Выстаўка ў Берліне і Мінску. Берлін. 1996.*

**Вынікам памятнай выставы прапагандысцкіх плакатаў, выпушчаных падчас нямецкай акупацыі Беларусі, сталася, апроч усяго, выданне кнігі-праспекта, у якой змешчана частка прыкладных матэрыялаў з гэтай выставы, а таксама друкуюцца некаторыя дакументы, якія дапамагаюць зразумець сутнасць нямецкай прапаганды на Беларусі. Выстава асабліва цікавая і павучальная для беларускай моладзі, для якой апошняя вайна — гэта ўжо далёкая гісторыя, была пабудавана на кантрасце паміж прапагандысцкім плакатам, тыпу "Нямецкі жаўнер ахоўвае цябе і тваю лепшую будучыню", і фотаздымкамі той рэчаіснасці з забітымі людзьмі і папялішчамі.**

**Тым не менш, выстава зрабілася скандальнай. Яна не дабыла да канца вызначанага тэрміну і пад націскам ветэранаў была зачынена. Хаця, як падаецца, іх прэтэнзіі былі толькі фармальнай зачэпкаю для забароны выставы, бо зусім нечакана, незалежна ад арганізатараў выставы, выявіліся паралелі паміж сродкамі працы, здавалася б, такіх розных прапагандысцкіх машын, ды і не толькі іх.**

**Чым больш жорсткі акупацыйны рэжым усталёўваўся на Беларусі, тым больш неправўдападобным ён паказваўся ў тагачасных агітацыйных матэрыялах. "Пры нямецкай ахове можна толькі выйграць", сцвярджала прапагандысцкая ўлётка, у той час як ішло планамернае рабаўніцтва і знішчэнне беларускага народа.**

**Асноўным сродкам усталявання акупацыйнага рэжыму было поўнае падпарадкаванне беларусаў: "усе выступы грамадскіх асоб, варожыя вермахту, павінны быць падаўлены зброяй, а іх удзельнікі знішчаны", чытаем мы ў сакрэтных дакументах, змешчаных на выставе. Усё гэта рабілася з той мэтаю, што "здзяйсненне пакарання павінна паглыбіць эфект запалохвання насельніцтва".**

**Для выканаўцаў "навядзення парадку" была прадуглелдліва вырашаная праблема маральнасці: "за дзеянні, якія салдаты вермахта ўчынілі адносна варожа настроенага цывільнага насельніцтва, яны не нясуць адказнасці". Праўда, гэта не выратавала іх пасля вайны. На паваенных працэсах, як сцвярджаюць выстаўленыя дакументы, "было ясна падкрэслена, што спасылка на "загад" не можа быць апраўданнем злачынных дзеянняў".**

**Вось жа цяпер застаецца толькі зрабіць некаторыя папраўкі на час і стане зусім зразумелым, чаму ўлады прыкрылі гэтую выставу.**

**Але выстава і кніжка-праспект падводзяць таксама і да іншых думак. Нямецкі народ, які сам прагаласаваў за Гітлера, а потым, у выніку пяці рэферэндумаў, надзяліў яго неабмежаванай уладаю, тым не менш, здолеў аднавіць усе лепшыя свае якасці, мабыць, назаўсёды атрымаўшы прышчэпку ад нацыянал-сацыялізму. Так што не трэба сёння надта перажываць і за наш беларускі народ. У яго яшчэ ўсё наперадзе.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

АДГАЛОСКІ

# Імітацыя згоды

Непазбежна будзе мізарнець магчымасць грамадскае згоды, калі як асноўны аргумент неабходнасці гэтай самай згоды даводзяць, што мы, маўляў, жывём у адзінай краіне. Да таго ж, сёння нават і гэта не так. Хтосьці жыве ўжо ў Саюзе Беларусі і Расіі, шмат людзей з сівымі валасамі працягваюць жыць у СССР, а нехта дагэтуль марыць пра сваю сапраўды вольную дзяржаву. Не ладзіцца згода і праз шматлікія спробы правядзення гэтак званых "круглых сталоў", праз патэтычныя прамовы, праз партыі і парламенцкія фракцыі са словам "згода" ў назвах. Перашкаджалі здзяйсненню гэтай высакароднай ідэі то амбіцыі асобных палітыкаў, то старажытныя сцягі, то — самае галоўнае — аблуднае меркаванне, што згода ёсць аднадумства.

Улады і апазіцыя... Што можна мовіць пра іхнія дачыненні, калі простыя людзі ў палітычнай спрэчцы на аўтобусным прыпынку пачасту ўжываюць лаянку, амаль усчынаючы бойку? У стасунках уладаў і апазіцыі не відаць аніякіх праяў паразумення, засталася надзея адно на непрацяглую хаця б гутарку на дыстанцыі. Ды і не можа быць іначай: ад прэзідэнта па сваёй і не па сваёй волі адышлі амаль усе яго колішнія паплечнікі, а апазіцыя толькі апошнім часам здолела больш-менш аб'яднацца. У краіне дзейнічаюць альтэрнатыўныя інстытуты ўлады, Канстытуцыі, прызнаныя і непрызнаныя... Супрацьстаянне ў залах і на вуліцах. Такім чынам, адно толькі адчуванне ідэі нацыянальнай згоды (дарэчы, ужываецца радзей за выкрыццё нацыянальнай здрады) сталася сродкам палітычных захадаў.

Апісаныя ніжэй падзеі яшчэ раз сведчаць, што гэта так.

10 красавіка, у чацвер, прэзідэнт А. Лукашэнка ладзіў тэлевізійную прэс-канферэнцыю з удзелам айчынных і замежных журналістаў і прадстаўнікоў палітычных партый і арганізацый. Гэткая сустрэча адбылася ўпершыню, таму шмат хто быў збянтэжаны такім крокам кіраўніка дзяржавы. Часам сустрэча нагадвала цывілізаваную гутарку палітычных дзеячаў. У паўзах сур'ёзнай гаворкі прэзідэнт жартаваў, смяяўся, паведаміў недасведчаным, на якім годзе карова пачынае даваць малако і г.д. Праўда, у размовах з Ю. Хадыкам і П. Шараметам прэзідэнт трохі раззлаваўся, аднак агульны настрой гэта не сапсавала, шмат чаго цікавага было яшчэ, але галоўнае ў тым, што адбылося наступнымі днямі пасля прэс-канферэнцыі.

Так, 11 красавіка беларуская амбасада ў ЗША распаўсюдзіла прэс-рэліз, распавядаючы пра ўзгаданую сустрэчу. Таксама наша МЗС даслала гэтую заяву і ў міжнародныя арганізацыі. У ім адзначалася, што прэзідэнт А. Лукашэнка і апазіцыйныя сілы распачалі з ініцыятывы кіраўніка краіны канструктыўны палітычны дыялог дзеля "пошукаў кампрамісу". З чаго гэта беларускія ўлады раптам пачалі сцвярджаць усяму свету, "што прэзідэнт і ўрад краіны імкнуцца знайсці агульную мову з апазіцыяй"? Прычыны відавочныя. Гэта і пастаянная крытыка з боку сусветнай супольнасці, і неаднаразовыя выказванні расійскага прэзідэнта Б. Ельцына на адрас свайго калегі, дзе ён абяцае "преподать урок демократии". Да таго ж, у Расіі, з якою мяркуецца аб'яднанне, склалася досыць распаўсюджаная думка, што нельга дзейсніць шчыльную інтэграцыю з краінай, дзе адсутнічаюць элементарныя прыкметы дэмакратыі. Характэрна тое, што ў першую чаргу згаданы вышэй дакумент быў дасланы ў амерыканскія інстытуты ўлады, бо адносіны Беларусі і ЗША вельмі сапсаваліся.

Не сакрэт, што астатні свет знаёміцца з нашай краінай больш праз тэлевізійныя карцінкі пра сутычкі дэманстрантаў з міліцыяй. Таму, мабыць, у прэс-рэлізе і адзначаецца, што прэзідэнт А. Лукашэнка на сустрэчы надаў асаблівую ўвагу правядзенню мітынгаў і шэсцяў, сказаўшы, што іх удзельнікі не пацерпяць, калі будуць выконваць закон і не будуць правакаваць ахоўнікаў парадку.

Такім чынам, абвяргаюцца крытычныя заўвагі Захаду на адрас беларскіх уладаў ва ўсталяванні дыктатуры.

Апазіцыя, дакладней, БНФ, адказала імгненна, наладзіўшы ў панядзелак, 14 красавіка, прэс-канферэнцыю. Ужо памянёны прэс-рэліз быў ахарактарызаваны як "чарговая хлусня". Лідэры БНФ заявілі, што сцвярджаць, нібыта распачаўся "дыялог", дазваляе толькі прысутнасць на сустрэчы Юрыя Хадыкі, які, дарэчы, на наступны дзень быў чарговы раз асуджаны і аштрафаваны.

Чаму ж з'явіўся на тэлепрэс-канферэнцыі па асабістым запрашэнні прэзідэнта прадстаўнік БНФ? Нешта ўзгаджаць? Не. Папросту выкарыстаць магчымасць паведаміць у прамым эфіры па трох каналах народу, што 26 красавіка БНФ ладзіць традыцыйны Чарнобыльскі шлях. Ды спытаць у прэзідэнта, ці будуць ужыты дубінкі.

Менавіта ў адзінаццатую гадавіну чарнобыльскай трагедыі, здаецца, можа стаць відавочным, што "пошукі кампрамісу" з апазіцыяй з боку ўладаў ёсць толькі ўяўнасць,

Некалі Д. Оруэл пісаў пра каталікоў і камуністаў, што яны "лічаць праціўнікаў няздольнымі быць адначасова сумленнымі і разумнымі". Гэта тычыцца, пэўна,і ўлады з апазіцыяй у нашай краіне. Часам у скрайніх праявах.

**Кірыла ПАЗНЯК**

## На флейце Даша грае сола...



**Выходзіла на сцэну крохкая бялявая яснавокая дзяўчынка, трымаючы ў тонкіх пальчыках серабрыстую флейту — і ў зале ўжо не было абыякавых твараў. А калі яна пачынала граць... Простая замілаванасць у людзей дасведчаных змянялася ўсведамленнем, што гэтае абаяльнае дзіця ўпэўнена, свядома і мэтанакіравана ідзе ў сур'ёзны свет прафесійнага мастацтва. Невыпадкова зусім яшчэ юнай Дашы Бельцюковай, навучэнцы Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, давялося граць з аркестрам пад кіраўніцтвам незабыўнага маэстра, нашага выдатнага дырыжора Юрыя Цырука, пра што нагадвае сёння ўжо сапраўды гістарычны здымак.**

**Гадоў з таго часу мінула не так і шмат: Даша па-ранейшаму вучыцца ў ліцэі, хаця, можна сказаць, без пяці мінут студэнтка. Ды ўплыў цудоўных педагогаў (Ніны Аўраменкі, Валерыя Грыгор'ева), строгіх бацькоў-музыкантаў (маці — Вольга Бельцюкова, піяністка, знаны канцэртмайстар, бацька — вядомы кампазітар Сяргей Бельцюкоў) і ўласная працавітасць паспрыялі досыць імкліваму развіццю яе выканальніцкай кар'еры. Удзел у канцэртах і конкурсах; ганаровыя міжнародныя лаўры; выступленні ў краінах Заходняй Еўропы з Камерным аркестрам ліцэя пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна — у якасці салісткі...**

**Яе першы сольны канцэрт адбыўся зусім нядаўна ў Зале камернай музыкі сталічнай філармоніі.**

**Выйшла на сцэну крохкая бялявая дзяўчына: стромкая пастава, светлы яснавокі рамантычны твар. Многія вядомыя музыканты краіны і аднагодкі-"балельшчыкі" віталі яе ў той вечар, апладысментамі ды кветкамі адзначыўшы смелы (стылёвая разнастайнасць) выбар рэпертуару, тэхнічную стабільнасць, прафесійную загартаванасць, трывушчасць. Юная артыстка, здавалася, аднолькава камфортна пачуваецца ў розных музычных мікрасветах — ад І. С. Баха да А. Казэлы, Ф. Пуленка, А. Хачатурана ды С. Бельцюкова. Гэтая дзівоснай прыгажосці Саната Ф. Пуленка, дыямент у канцэртных праграмах сталых флейтыстаў. Гэтыя нечакана кантрастныя "бісы" — пачуццёвае Адажыо з балета А. Хачатурана "Спартак" ды ягоны ж агніста-жарсцевы "Танец з шаблямі"...**

**Сапраўднай драматургічнай, і эмацыянальнай, і мастацкай знаходкай таго музычнага вечара была Дашына... кампанія. Разам і на роўных гралі з ёю канцэртмайстры Алена Зыль, Расціслаў Крымер ды Андрэй Паначэўны, добра вядомыя маладыя піяністы. Асабліва натхнёна і арганічна гучаў дуэт флейты і фартэпіяна, калі месца за раялем заняў лаўрэат міжнародных конкурсаў студэнт Беларускай акадэміі музыкі Андрэй Паначэўны. Бліскучы саліст раскрыў рэдкасную вартасць сваёй натуры, уразіўшы публіку як тонкі, чулы партнёр.**

**Напэўна, хтосьці з тых, каму давялося патрапіць на першы сольны канцэрт Дашы Бельцюковай і пабачыць-пачуць яе выступленні ў ансамблі з маладымі піяністамі, міжволі падумаў: ну, вось і сапраўдная вясна прыйшла! Зазірнула ў залу, хаваючыся ад навакольнай непагадзі...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: Даша БЕЛЬЦЮКОВА і дырыжор Юры ЦЫРУК*

ДРУК

# Аднабаковасць... за дзяржаўны кошт

***Выхад у свет часопіса "Всемирная литература" выклікаў супярэчлівую рэакцыю ў зацікаўленых колах грамадскасці, а супрацьлеглыя характарыстыкі, якія яго суправаджаюць, вызначаюцца большай ці меншай ступенню катэгарычнасці.***

***Як здзек над здаровым сэнсам, які, на вялікі жаль, у апошнія гады ўжо ўвайшоў у звычку, расцанілі гэта новае на Беларусі выданне ўдзельнікі пасяджэння секцыі перакладу і сувязей Саюза пісьменнікаў.***




Загадчык кафедры замежнай літаратуры БДУ, доктар філалагічных навук І. Шаблоўская, якая была запрошана на абмеркаванне, адзначыла, што вышэйзгаданы часопіс па сваім змесце нагадвае альманах, які друкуе старыя, добра ўсім вядомыя творы замежных класікаў і пісьменнікаў з краін СНД у рускамоўных перакладах. Прычым пераважная большасць твораў шматразова выдавалася асобна ў папярэднія гады.

Але ж часопіс не лічыць неабходным нагадаць чытачу, з якіх выданняў робіцца перадрук, па якім прынцыпе выбіраецца пераклад, наколькі ён дасканалы і вывераны з тэкстам арыгінала, ці адпавядае пераклад сучасным уяўленням і ведам. Наогул, пры гэткім падыходзе ніхто не зможа гарантаваць чытачу, што яму прапаноўваюць паўнавартасны, а не скарочаны, часопісны варыянт таго ці іншага твора.

Рэдакцыйным прадмовам да друкуемых тэкстаў уласціва беззмястоўнае і траскучае шматслоўе, якое замест таго, каб зацікавіць чытача, робіць адваротнае.

Кароткія даведачна-біяграфічныя звесткі ў канцы часопіса звычайна не даюць сутнаснага ўяўлення пра аўтараў нумара. Інфармацыя пра гісторыю перакладаў таго ці іншага твора і асобу перакладчыка адсутнічае. Чытач можа даведацца толькі яго прозвішча, ды і то іншы раз ініцыялы даюцца памылковыя. У часопісе практычна адсутнічаюць крытычныя і мастацтвазнаўчыя артыкулы, а выбар твораў носіць неабавязковы і выпадковы характар.

У апошнія гады выкладанне замежнай літаратуры на філфаку БДУ вялося на беларускай мове, аднак студэнты былі вымушаны ў пераважнай колькасці карыстацца рускамоўнымі перакладамі класічных твораў. А велізарная праца беларускіх перакладчыкаў па ўвасабленні на роднай мове сусветна вядомых шэдэўраў застаецца амаль невядомай масаваму чытачу і чакае свайго часу ў архівах і шуфлядах. У гэтым сэнсе "Всемирная литература" нічога не можа даць ні выкладчыкам, ні студэнтам ВНУ, якія, як можна здагадацца, здольныя азнаёміцца з прапануемымі часопісам творамі па разнастайных іншых рускамоўных выданнях.

Дык ці не лепей было б проста паўплываць на павелічэнне агульнага накладу маскоўскага часопіса "Иностранная литература" і вярнуць яго на беларускія прылаўкі?

П. Місько нагадаў прысутным, што ў самыя апошнія гады, практычна на нашых вачах спынілі сваё існаванне беларускамоўныя альманахі "Далягляды", "Братэрства", "Ветразь", якія выходзілі амаль два дзесяцігоддзі запар і выконвалі найважнейшую функцыю азнаямлення беларускага чытача з літаратурамі, гаворачы сучаснай тэрміналогіяй, блізкага і далёкага замежжа. Відавочна, што "Всемирная литература" ні ў якой ступені не зможа замяніць іх.

Гэты часопіс выдаецца на цудоўнай паперы, добра аформлены з мастацкага боку — па ўсім відаць, што сродкі на яго пайшлі немалыя. Ці не ажыццёўлена выданне за кошт дзяржаўнага выдавецтва "Мастацкая літаратура", за кошт зняцця з выдавецкіх планаў шматлікіх кніг, якія загадам былі выкінуты з друкарняў і цяпер наўрад ці пабачаць свет увогуле?

Сёлета колькасць беларускамоўных кніг у гэтым выдавецтве скарацілася са 185 да 27 пазіцый.

Яшчэ некалькі гадоў таму сітуацыя была зусім супрацьлеглая. Нават у савецкія часы ў адной рэдакцыі "Мастацкай літаратуры" выходзіла болей назваў, чым зараз ва ўсім выдавецтве. Практычна дыхаюць на ладан серыі "Бібліятэка замежнай прозы", "Скарбы сусветнай літаратуры" і іншыя. Толькі асобныя творы могуць пабачыць свет пры ўмове непасрэднай перадаплаты з боку зацікаўленых асоб.

В. Сёмуха давёў прысутным, што асабіста ў яго ніякіх спадзяванняў на "Всемирную литературу" ніколі не было і быць не магло, бо канцэпцыя гэтага часопіса зыходзіць з палітычных меркаванняў.

Было адзначана, што беларуская літаратура ў трох нумарах "Всемирной литературы" прадстаўлена трыма апавяданнямі І. Пташнікава ў перакладзе Кудзінава, падборкай далёка не лепшых вершаў М. Танка ў перакладах Хелемскага ды рускамоўнымі вершамі М. Багдановіча, дадаткам да якіх выступае кароткі гісторыка-літаратурны агляд А. Мажэйкі, прысвечаны вядомым перакладам і публікацыям Багдановіча ў еўрапейскіх краінах.

Апошняе — амаль адзінае, што носіць навукова-даследчы характар і таму кантрастуе з агульным зместам часопіса. Такім чынам, нават прыстойна азнаяміць рускамоўнага чытача з лепшымі творамі беларускай літаратуры, прапагандаваць яе на ўзроўні СНД часопіс, відавочна, не можа.

Гэта рабіў і робіць "Нёман". І калі ідзе гаворка пра наладжванне літаратурных кантактаў і сувязей, разбураных у апошнія гады, пра культурны абмен, дык варта было б затрачаныя на "ВЛ" сродкі адрасаваць "Нёману", павялічыць яго наклад і распаўсюджваць за межамі Беларусі. А "Всемирная литература" са сваім дзіўнаватым зместам нікому ў Маскве, Кіеве ці нават Душанбе непатрэбная.

У. Конан перавёў пытанне ў філасофскую плоскасць. Часопіс-рэпрадукцыя, які робіць на сваіх старонках гістарычны агляд сусветнай літаратуры. Ці патрэбна такая з'ява? Так, такое цалкам магчыма. Сапраўды, ёсць людзі, якім амаль нічога невядома ў сусветнай культуры і якія звычкі набываць мастацкую літаратуру ці наведваць бібліятэку не маюць. І таму, калі часопіс будзе спрыяць выхаванню эстэтычнага густу гэткіх чытачоў, яго існаванню нельга пярэчыць. Але ж згадзіцца з такой пастаноўкай пытання можна толькі ў тым выпадку, калі краіна будзе заможнай і адно выданне не будзе ажыццяўляцца за кошт другога ці нават некалькіх іншых.

У цяперашнім выглядзе "ВЛ" служыць выключна скажона зразуметым палітычным мэтам. Абвешчаная "інтэграцыя" з усходнім суседам мае аднабаковы накірунак. Інфармацыйны паток з Расіі глушыць усё беларускае ў Беларусі, і таму гаворка пра нейкі культурны абмен у такіх умовах можа ўспрымацца выключна як здзек і абсурд.

У былым СССР сапраўды такі абмен існаваў. Да прыкладу, некалькі дзесяткаў кніг беларускіх аўтараў у рускіх перакладах штогод выходзіла ў Маскве да 1986 года. І тады зацікаўлены чытач пры ўласным жаданні мог сёе-тое пачуць і ведаць. Пры сённяшніх падыходах у Беларусі беларуская культура з разраду элітарных хутка апынецца ўвогуле ў музейных сховішчах.

Закон эканоміі сіл сцвярджае, што з дзвюх існуючых рэчаў ці з'яў (у нашым выпадку — моў) чалавек міжвольна ці свядома мусіць выбіраць адну — тую, якая яму лепш зразумелая. Як можна сабе ўявіць, грамадства будуць штучна падштурхоўваць да выбару не на карысць беларускай мовы, літаратуры, культуры.

А. Траяноўскі параўнаў цяперашняе стаўленне дзяржавы да беларускай мовы і культуры з сумна вядомымі часамі сталінскіх рэпрэсій. Ён выказаў меркаванне, што калі ўціск будзе працягвацца і ўзмацняцца далей, дык культура беларускай нацыі будзе існаваць амаль выключна на эміграцыі. На сваёй зямлі ёй месца не будзе...

Супрацоўнік часопіса В. Каваленка пагадзіўся з тым, што, маўляў, першы блін камяком, і паспрабаваў, тым не менш, апраўдаць канцэпцыю выдання тым, што часопіс нібыта заняў пэўную нішу ў свядомасці масавага рускамоўнага чытача Беларусі і нават СНД, а таксама, што часопіс павінен узнавіць разбураныя літаратурныя сувязі народаў былога СССР, заявіць аб Беларусі і беларускай літаратуры ў сусветным кантэксце, што ў прынцыпе немагчыма без пасрэдніцтва рускай мовы. Часопіс запрашае перакладчыкаў узяцца за ўвасабленне на рускай мове беларускай класікі, у тым ліку сярэднявечных твораў.

Большасць прысутных не змагла пагадзіцца з такімі аптымістычнымі прагнозамі і паверыць у абяцанні, якія супярэчаць рэальным справам. Найбольшае абурэнне выклікалі разважанні пра так званую нішу, бо, на думку перакладчыкаў, гэтая ніша заўсёды была занятая.

Мастацкі пераклад, які з'яўляецца невычэрпнай крыніцай развіцця мовы і духоўнага выхавання нацыі, пакуль застаецца практычна незапатрабаваны грамадствам, ігнаруецца масавым чытачом. І "Всемирная литература", цудоўна разумеючы гэта, шчодра эксплуатуе інтэлектуальныя хібы нацыянальнай свядомасці, цынічна карыстаецца імі ў сваёй практыцы.

Прыкладам перыядычнага выдання, якое з'яўляецца люстэркам апошніх дасягненняў і здабыткаў сусветнай літаратуры, якое дае на сваіх старонках новыя, нідзе дагэтуль не друкаваныя творы, на думку членаў секцыі, можа з'яўляцца ўкраінскі часопіс "Всесвіт". І калі немагчыма адрадзіць заўчасна памерлыя беларускамоўныя альманахі, дык патрэбна стварыць нешта падобнае і ў нашай Бацькаўшчыне.

**Ігар ПАНАМАРЭНКА**

АНОНС

# Заўтра ў Полацку...

Так, урачыста адкрыецца заўтра і прадоўжыцца да 1 мая X Міжнародны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. Афіша канцэртнай залы Полацкага Сафійскага сабора выглядае святочна: цікавыя госці, прывабныя праграмы. Адкрые фестываль знаны Літоўскі камерны аркестр пад кіраўніцтвам маэстра Саулюса Сандэцкіса.

А далей — выступленне германскага арганіста Яганеса Геферта, канцэрт артыстаў з Ізраіля, праграма з удзелам беларускіх калектываў — Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У. Байдава ды ансамбля старадаўняй музыкі Контрданс" пад кіраўніцтвам А. Канстанцінава; прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Ф. Шуберта сольная праграма маскоўскай піяністкі Маргарыты Фёдаравай, вакальная музыка ў выкананні лаўрэатаў міжнародных конкурсаў з Масквы, знаёмства з аўстрыйскімі музыкантамі... "Мо цікавей, чым у сталіцы!" — выгукне дасведчаны меламан. І будзе мець рацыю.

**С. Б.**

ПОВЯЗЬ

# Вайскоўцы ўдзячныя

Такая ўдзячнасць прагучала з вуснаў міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўніка Аляксандра Чумакова на пасяджэнні Рэспубліканскай ваенна-шэфскай камісіі, што нядаўна адбылося ў Цэнтральным Доме афіцэраў. Безумоўна, фактаў супрацоўніцтва творчых Саюзаў, культурна-асветніцкіх устаноў, асобных майстроў сцэны з воінскімі калектывамі нямала. Прызнаннем гэтага з'яўляецца і ўзнагароджанне вялікай групы творчых работнікаў каштоўнымі падарункамі, граматамі Міністэрства абароны.

Выступаючы на пасяджэнні, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі заўважыў, што асаблівую ўвагу ў шэфскай рабоце неабходна скіроўваць на вайсковыя навучальныя ўстановы. Ад узроўню духоўнасці, выхаванасці афіцэра залежыць стан духоўнасці падначаленых, увогуле арміі.

Анатоль Сульянаў расказаў пра свае наведванні дысцыплінарнага батальёна, пра гутаркі з пакаранымі салдатамі, намагаючыся падтрымаць іх і дапамагчы. З цікавасцю слухалі прысутныя і выступленне Яўгена Каршукова, з вуснаў якога прагучала канкрэтная прапанова — стварыць Цэнтр героіка-патрыятычнага выхавання.

Выступілі на пасяджэнні таксама старшыня Рэспубліканскай ваенна-шэфскай камісіі Ігар Лучанок, дырэктар Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы Іван Вашкевіч і іншыя.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

МЕРКАВАННЕ

# Куды ідзём?

АБ'ЯДНАННЕ з Расіяй... Пакуль што гэта — рыторыка на высокім узроўні, актывізацыя тых сіл, якім незалежная Беларусь непатрэбная, але адначасова — і сур'ёзная падрыхтоўка грамадскай думкі да ліквідацыі суверэнітэту маладой беларускай дзяржавы ў выпадку, калі ўладам не ўдасца вывесці краіну з глыбокага крызісу. Сімптом безвыходнасці і адчаю. Усё гэта — страшна, бо вядзе да расколу грамадства, паралізуе волю народа паверыць у свае сілы, аб'яднацца і паказаць здольнасць выжыць, абараніць інтарэсы сваёй дзяржавы і гонар нацыі.

Калі б мы змаглі дабіцца хоць невялікіх зрухаў у адраджэнні нацыянальнай свядомасці і выхадзе з крызісу — ідэя аб'яднання перастала б існаваць. Але гэта не можа адбыцца, калі ўся дзяржаўная і гаспадарчая эліта не верыць у свае сілы і магчымасці, баіцца адказнасці і чакае ратунку з Усходу ад "старэйшага брата" і адначасова, карыстаючыся нестабільнасцю, уладкоўвае свае асабістыя справы.

Аб'яднанне з Расіяй... А прасцей кажучы, без камуфляжу, інкарпарацыя Беларусі ў суседнюю вялікую дзяржаву, у якой сваіх праблем — па горла, якая ўжо многія дзесяцігоддзі не можа сябе пракарміць, адзець і абуць, з вялікай хуткасцю траціць свой эканамічны і ваенны патэнцыял, але не хоча развітацца са сваімі імперскімі амбіцыямі.

Уражанне ў сусветнай грамадскасці такое, быццам беларускі народ непаўнацэнны, не здольны жыць самастойна, не хоча свабоды і сам просіцца ў абдымкі старэйшага брата.

Для прыкладу, палякі, літоўцы, латышы, фіны, эстонцы не просяцца ў імперыю. Яны там ужо былі і даволі доўга. Калі б Расія паспрабавала зноў сілай анексіраваць гэтыя краіны — яны змагаліся б за сваю незалежнасць да апошняга салдата. Украінцы таксама нас не разумеюць. Але ж мы, беларусы, не такія. У нас больш устойлівы "вернападданіцкі" менталітэт.

Нават маленькая дзяржава Манака з 20 тысячамі насельніцтва не падумае аб'яднацца з вялікай і багатай Францыяй.

Нашы дзяржаўныя мужы, а таксама лідэры некаторых партый і рухаў выказваюцца аб ліквідацыі незалежнасці сваёй Радзімы, як аб продажы каровы ці дачы, што прыносяць гаспадарам лішнія клопаты. Тут не пахне ні патрыятызмам, ні адказнасцю за лёс Радзімы. І не хочацца задумацца тым, хто пры ўладзе па волі народа, што заўсёды, ва ўсе часы і ва ўсіх народаў рэнегацтва, калабаранцтва, а прасцей кажучы, здрада свайму народу і дзяржаве была і будзе ацэньвацца як самае вялікае злачынства, якія гісторыя ніколі не даруе, не прабачыць.

Значная частка грамадзян пакуль што верыць афіцыйнай прапагандзе. Свядомасць людзей апрацоўваецца таксама расійскімі добразычліўцамі, людзьмі накшталт Селязнёва, Жырыноўскага, Тулеева, Іллюхіна і інш. Пры стане нашай эканомікі і агульнага адчаю лёгка падмануць людзей выгодамі, якія нібыта дасць аб'яднанне, і развaжаннямі, накшталт:

— Суверенитетом сыт не будешь!

— Колбаса или независимость!

— Пропадаем без российских нефти и газа.

— Придут к власти националисты и русским не будет места в Белоруссии...

Для тых, у каго яшчэ не прабудзілася нацыянальная годнасць, патрэбны больш пераканаўчыя довады матэрыяльнага характару.

— Хто і калі вазіў з Расіі ў Беларусь танную каўбасу?

— Ці быў калі голад у Беларусі?

— Чым беларус горшы за расіяніна?

Успомнім недалёкую гісторыю. Нават у гады нямецкай акупацыі спаленая, разрабаваная, акрываўленая Беларусь карміла не толькі акупантаў, але цалкам забяспечвала харчаваннем, адзеннем, абуткам, конь мі, павозкамі і фуражом 300-тысячную партызанскую армію. А скончылася вайна і да нас паехалі на пасажырскіх і таварных цягніках, у тамбурах і на дахах вагонаў сотні і тысячы рускіх і ўкраінцаў з галодных — незваяваных — абласцей Усходу, каб разжыцца збожжам, бульбай, салам, іншымі прадуктамі.

І хіба цяпер, у мірны час мы не пражывём? Будзем чакаць хлеба і каўбасы з Расіі?

Мы не бедныя. У нас спрыяльныя кліматычныя ўмовы, добрыя глебы, лес, азёры, балоты, тарфянікі. Ёсць у нас і сыравінныя запасы — мінеральныя солі, нафта, будматэрыялы, вапна, лекавыя мінеральныя воды, нават нібыта бурштын і золата. Адбудаваны (обустроены) гарады і вёскі, ёсць добрыя дарогі і масты, школы і бальніцы, клубы і бібліятэкі. Беларусь мае сучасную магутную прамысловасць, якая пасля неабходнай рэканструкцыі і канверсіі можа быць выключна эфектыўнай у выпуску экспартнай прадукцыі. Наша сельская гаспадарка і цяпер на ўзроўні перадавых еўрапейскіх краін, толькі не даць ёй разваліцца, зацікавіць селяніна ў плённай працы. Мы можам сябе забяспечыць усімі прадуктамі харчавання (у тым ліку цукрам, тытунёвымі вырабамі), сыравінай для выпуску адзення, абутку і іншай прадукцыі. Можам выпускаць усе віды мінеральных угнаенняў, перапрацоўваць мільёны тон нафты.

А ўзровень нашай навукі? А высокапрафесійныя кадры? А адукаваныя і працавітыя людзі?

Колькі плюсоў дае наша геапалітычнае знаходжанне ў цэнтры Еўропы, нашы чыгуначныя, шашэйныя і трубаправодныя магістралі, прыгодныя для транзіту грузаў з вялікай выгадай для дзяржавы.

І без нафты мы не застанёмся, як не жывуць без яе амаль усе еўрапейскія краіны. Расія прадае газ і нафту ўсім, у каго ёсць грошы. У гэтым яна зацікаўлена ў першую чаргу.

Суверэнная дэмакратычная і нейтральная Беларусь не будзе мець патрэбы ў вялікай арміі, дарагім узбраенні. Гэта значна аблегчыць наш бюджэт. Узмоцніцца давер да нас блізкіх і далёкіх суседзяў. Пойдуць інвестыцыі і новыя тэхналогіі.

Усім вядома, што самы высокі ўзровень жыцця — у невялікіх суверэнных краінах Еўропы. Яны жывуць самі для сябе і іх незалежнасці ніхто не пагражае. Гэта не лёгкі, але самы правільны шлях у будучыню.

Але не ўсе так думаюць. Людзі збіты з панталыку, запалоханы, не ведаюць, каму верыць.

Давайце ўявім становішча нас, беларусаў, у складзе Расіі. Федэрацыя, канфедэрацыя — гэта камуфляж, незалежнасці будзе не больш, чым мела Беларусь у складзе СССР. Будзем часткай імперыі, у якой працягваецца спад і развал эканомікі, дзе па 6—8 месяцаў не выплачваюць заробкі і пенсіі, дзе да крайнасці абвастрыліся міжнацыянальныя канфлікты, не дзейнічаюць законы, акрамя мафіёзных, і зусім невядома, чым закончыцца барацьба за ўладу.

Пры ўсім гэтым Масква не адмаўляецца ад сваіх імперскіх амбіцый, як было на працягу ўсёй яе гісторыі. Расіі патрэбны многія тысячы танкаў і самалётаў, атамныя крэйсеры і падводныя лодкі, балістычныя ракеты і ядзерныя бомбы, а разам з тым — вялікая армія, тысячы генералаў, дыпламатаў і разведчыкаў, і многае, многае іншае, што непатрэбна невялікім нейтральным краінам.

Увойдзем у склад імперыі — будзем разам з расіянамі фінансаваць гэтыя астранамічныя выдаткі. Праблемы Чачні, Таджыкістана, Далёкага Усходу, граніц з Кітаем, ваенна-марскіх флатоў Расіі на Поўначы, Поўдні, Захадзе і Усходзе — гэта будуць і нашы праблемы.

Расія "не обустроена" так, як Беларусь. Колькі там трэба пабудаваць чыгуначных і шашэйных дарог, мастоў на вялікіх яе прасторах!

Расія "непредсказуема". Цяжка сказаць, ці будзе там парадак і цераз 20—30 гадоў. На працягу двух вякоў непаслухмяныя беларусы "асвойвалі" Калыму, Магадан, тайгу і тундру Поўначы. Ці патрэбна нам усё гэта? І ўвогуле, ці патрэбны нам, беларусам, расійскія праблемы?

Усякае было ў гісторыі адносін з Расіяй — войны, паўстанні, рэпрэсіі, сумесная Вялікая Айчынная вайна супраць захопнікаў, сумесная адбудова народнай гаспадаркі. Паміж



*Фота А. Мацюша*

беларускім і рускім народам з часам усталяваліся добрыя братэрскія адносіны. Агульная эканамічная і палітычная прастора зблізіла, перамяшала народы былога Саюза. Многія беларускія сем'і маюць родных і блізкіх у Расіі. Гэта нельга ігнараваць. Мы павінны жыць, як добрыя суседзі, надзейныя партнёры. Па дружбе і па-суседску можна пайсці, калі трэба, на ўзаемныя ўступкі. Кожнаму вядома, што нам больш выгадна прадаць сваю прадукцыю па-суседску на блізкім і вялікім расійскім рынку. Нам выгадна купіць у Расіі нафту і атрымаць яе дома па трубаправодзе, чым купляць у Кувейце і вазіць чужымі танкерамі цераз чужыя порты.

Улічваючы структуру нашай і расійскай прамысловасці, неабходна цесная эканамічная інтэграцыя. Гэта добра, што граніца ў нас стала празрыстай, што і вучыцца, і лячыцца, і стаж працоўны зарабіць можна на агульнай эканамічнай прасторы. Супрацоўніцтва ў рамках СНД таксама карыснае і неабходнае.

А што свае грошы павінны быць у сваім кашальку, у сваёй кішэні, — дык гэта зусім натуральна.

Было б вельмі добра, каб усё гэта, аб чым ідзе гаворка, зразумела большасць грамадзян краіны. Але ж сродкі масавай інфармацыі выдаюць другую "праўду", тую, аб якой гаварылася ў пачатку "Незалежнасцю сыты не будзеш", "Суверэнітэт ці каўбаса" і г. д.

Заняпад эканомікі, збядненне людзей могуць яшчэ больш паскорыць тэндэнцыю большасці насельніцтва да аб'яднання з Расіяй: маўляў, мы не здольныя жыць самастойна, а ўсе нястачы — ад незалежнасці.

Хто рэальна можа падтрымаць незалежніцкі рух у народзе? Гэта не могуць зрабіць слабыя, далёка не масавыя палітычныя партыі, да дзейнасці і ролі якіх народ адносіцца скептычна. Вялікую справу нацыянальнага адраджэння, умацавання суверэнітэту дзяржавы, веры ў сілу і здольнасці беларусаў можа абудзіць у народзе толькі нацыянальная творчая інтэлігенцыя, пры падтрымцы ўсёй працоўнай інтэлігенцыі.

Народныя і заслужаныя паэты і пісьменнікі, кампазітары і мастакі, зоркі і зорачкі эстрад, артысты і юрысты, прафесары і дактары навук, студэнты і настаўнікі павінны прабудзіць у сябе беларусаў-патрыётаў. Ваша палымянае слова па радыё, тэлебачанні, у газеце, у аўдыторыі інстытута ці на бацькоўскім сходзе, патрыятычная беларуская песня з эстрады, ваша актыўная грамадзянская пазіцыя ў творчых саюзах і іншых грамадскіх арганізацыях зробяць вялікую справу на карысць незалежнасці Радзімы.

Калі інтэлігенцыя краіны, гонар і эліта нацыі ясна і грунтоўна выступіць у абарону незалежнасці Радзімы — будзе жыць Беларусь.

**Эдуард АРОЧКА**

*Слонімскі раён, вёска Міжэвічы*

# "Народная творчасць"

Беларускі інстытут праблем культуры выпускае ў свет новае выданне — часопіс "Народная творчасць". У ім друкуюцца праблемныя матэрыялы, метадычныя распрацоўкі, новыя запісы фалькларыстаў, этнографаў, нарысы пра народных майстроў. У рубрыцы "Трыбуна культработніка" можа выступіць кожны, хто сёння рупіцца аб праблемах нашай культуры. Рубрыка "У дапамогу фальклорным калектывам" прапануе распрацоўкі сцэнічных касцюмаў і аўтэнтычныя народныя строі. Аб праблемах развіцця фальклорнай традыцыі ў гарадскім асяроддзі і традыцыйнай культуры Падняпроўя разважаюць спецыялісты ў рубрыцы "Навука і практыка".

У першым выпуску "Народнай творчасці" надрукаваны "Музей Чарнобыльскай зоны" (унікальныя творы мастацтва, вывезеныя з забруджаных раёнаў), знойдзеныя ў архівах новыя матэрыялы па ганчарстве, творчыя партрэты разьбяра Івана Супрунчыка і ганчара Сямёна Саўрыцкага, "Галерэя інсітаў" (лепшыя творы мастакоўаматараў), нататкі з этнаграфічных экспедыцый, "Лекі з народнай аптэкі", "Песеннік "Народнай творчасці", дзіцячыя гульні і загадкі, рэцэпты народнай кухні, рэцэнзіі і анатацыі на новыя кнігі, а таксама "Майстэрня" (як зрабіць выцінанкі), "Цёмны пакой" (народная магія), "Наш каляндар" (традыцыйныя народныя святы) і шмат цікавага з народнай творчасці народаў усяго свету.

Сярод аўтараў — вядомыя ў нашай краіне фалькларысты, этнографы, журналісты, пісьменнікі Тамара Варфаламеева, Вольга Лабачэўская, Міхась Раманюк, Яўген Сахута, Уладзімір Скараходаў, Рыгор Шаура, Віктар Шматаў і іншыя.

Выпуск гэтых з'яўляецца эксперыментальным, і далейшы лёс яго, форма, перыядычнасць выдання залежаць ад вашай зацікаўленасці і падтрымкі.

Для вызначэння тыражу першага нумара просім даслаць на наш адрас (220086, г. Мінск, вул. Каліноўскага, 12) заяўку-заказ на патрэбную для вас колькасць экземпляраў, а таксама прапановы аб тэмах, матэрыялах, адрасах, аўтарах у наступныя нумары.

*Тэлефон для даведак: 263-05-38.*

## Патрэбна захаваць



**Разная драўляная арка, ці брама, як яе называюць мясцовыя жыхары, устаноўленая ля ўваходу на могілкі вёскі Харомцы Акцябрскага раёна, з'яўляецца помнікам народнага дойлідства. Але выраблена яна сельскім майстрам у XIX стагоддзі і цяпер мае патрэбу ў аднаўленні, што з'яўляецца адным з пунктаў раённай праграмы адраджэння культурна-гістарычнай спадчыны.**

*На здымку: лёсам аркі занепакоены дырэктар Цэнтра гісторыі і культуры Святлана Кавалёва і загадчыца аддзела культуры райвыканкама Святлана Беразоўская.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Прэмія — за "Малітву"...

**Нягледзячы на неспрыяльныя абставіны для літаратуры ў краінах "пераходнай эканомікі", былых савецкіх рэспубліках, літаратурнае жыццё працягваецца. Пісьменніцы Святлане Алексіевіч прысуджана прэмія "За творчыя паводзіны і высакароднасць у літаратуры", заснаваная "Новой газетой" (Масква, галоўны рэдактар — Дзмітрый Муратаў). Такая прэмія прысуджаецца ўпершыню. Беларуская пісьменніца атрымала яе за кнігу "Чарнобыльская малітва", у якой сабраны сведчанні тых, каго закранула чарнобыльская трагедыя. "Не жахі сюррэальнай рэальнасці ўражваюць у "Малітве", перш за ўсё — такога роду сенсорнага голаду мы даўно не адчуваем, а сіла любові, адданасці і — так? — прыгажосць чалавечай душы сярод нізасці, подласці, баязлівасці і бяздарнасці сістэмы і асобных яе шрубчыкаў (таксама ўвогуле — людзей)", — так абгрунтоўвае газета выбар лаўрэата, чые творы, дарэчы, заўсёды знаходзяць шырокі розгалас у свеце.**

## Вечарына Надзеі Артымовіч

**"Сустрэчы культур" — пад такой агульнай назвай адбываюцца творчыя вечарыны пісьменнікаў, выставы мастакоў, тэатральныя прадстаўленні калектываў з Украіны, Беларусі, Чэхіі ў польскім горадзе Любліне. Ініцыятарам і арганізатарам гэтых сустрэч з'яўляецца асяродак "Гарадская брама — тэатр НН", які 20 сакавіка гасцінна вітаў беларускую паэтку з Бельска Надзею Артымовіч.**

**Імпрэзу распачаў крытык Сяргей Кавалёў кароткім дакладам пра творчасць Н. Артымовіч у кантэксце сучаснай беларускай літаратуры. Прагучалі некаторыя творы паэткі і па-польску ў выкананні яшчэ аднаго ўдзельніка аўтарскага вечара, польскага паэта і перакладчыка Тадэуша Карабовіча.**

**Аўдыторыя прыхільна і з зацікаўленасцю прымала паэзію Надзеі Артымовіч, моўнага бар'ера амаль не адчувалася. Прысутныя імкнуліся да размовы з паэткай, задавалі пытанні, выказвалі свае ўражанні і меркаванні.**

**21 сакавіка разам з арганізатарамі сустрэчы Н. Артымовіч наведала дом-музей Марыі Кунцэвічавай у Казімежы Дольным, а таксама сустрэлася са студэнтамі-беларусістамі ва універсітэце імя М. Складоўскай-Кюры.**

*ЗА СПІНОЙ АЎТАРА*

# Пісаць лёсамі...

***Святлана Алексіевіч. Чарнобыльская малітва. (Хроніка будучыні). "Нёман", 1997, N 3. Пра гэтую публікацыю і іншыя творы пісьменніцы разважаюць крытыкі Валянцін Акудовіч, Пётр Васючэнка, Міхась Тычына.***

### ПРАБЛЕМА ЖАНРУ: МАСТАЦТВА ЦІ ЖУРНАЛІСТЫКА

**М. Тычына.** Гады тры-чатары таму, калі ішлі судовыя працэсы, што тычыліся кнігі "Цынкавыя хлопчыкі", спатрэбілася літаратурная экспертыза, сааўтарам якой быў я (разам з В. Каваленкам). Спрэчка звялася да таго, мастацкі гэта твор ці дакументалістыка, журналістыка ці літаратура. Давялося даводзіць, што — літаратура. Героі кнігі крыўдзіліся, што іх словы недакладна перададзены, ці не ў тым кантэксце. Гэта зразумела — вуснае і пісьмовае слова вельмі адрозніваюцца. Маюць рацыю тыя даследчыкі, што кажуць: дакументальны вобраз — разнавіднасць мастацкага вобраза. Ужо ад таго, што зменена ў прозвішчы адна літара — быў Марэсьеў, а стаў Мерэсьеў, на думку крытыкі, утвараецца літаратурны вобраз. І жыццё, і мастацтва, і навука, і палітыка — усё замыкаецца на творы Святланы Алексіевіч. Яна кранае такія балючыя тэмы, якія літаратурным вобразам ахаладзіць вельмі цяжка. Таму і ўзнікае прычына для спрэчкі.

**В. Акудовіч.** Працытую свой артыкул дзесяцігадовай даўнасці з часопіса "Нёман". У арыгінале ён называўся "Вайны болей не будзе", але назву памянялі з прычыны "залішняга радыкалізму": не ўсе былі перакананыя, што вайны больш не будзе, і артыкул выйшаў пад назвай "Судьбы войны — судьбы мира"; "В книге Светланы Алексиевич авторское "я" — центр, объединяющий вокруг себя материал и сознательно подчиняющий его единой внутренней идее... Эстетический, собственно художественный элемент в книге Светланы Алексиевич очень значителен, и книга посвоему даже беллетристична. ... Светлане Алексиевич неуютно: она уже художник, но еще журналист". Аналізуючы ваенную літаратуру і літаратуру-"потрясение", куды аднесіў працы Алеся Адамовіча і Святланы Алексіевіч, я зрабіў выснову, што асноўнае адрозненне кніг Святланы Алексіевіч ад кніг Алеся Адамовіча, ад знакамітых "Я — з вогненнай вёскі", "Блакаднай кнігі", якія былі пераважна публіцыстычнымі і дакументальнымі, — у тым, што Святлана Алексіевіч арганізуе сваю кнігу стратэгічна на іншым прынцыпе: у цэнтры стаіць яна сама, яе аўтарскае "я". Кніга арганізавана з дакументальных матэрыялаў не так, як вымагае сам матэрыял, а згодна аўтарскай ідэі. Я думаю, што не меў рацыі тады, калі падзяліў пісьменніцу на мастака і журналіста. Святлана Алексіевіч не журналіст, яна — менавіта пісьменнік-мастак. Нельга мастака, які пэндзлем малюе, лічыць мастаком, а мастака, які збірае вітраж з розных кавалкаў, лічыць не мастаком, а рамеснікам. Проста, у Святланы Алексіевіч іншы мастацкі жанр. Яна свой вітраж збірае з лёсаў. І не проста запісвае іх — а ствараe цэласную мастацкую ідэю. Я ўвесь час здзіўляўся, калі чытаў кнігі Святланы Алексіевіч: адкуль яна набірае людзей, якія так прыгожа гавораць. Не хачу сказаць, што пісьменніца ўпрыгожвае тэксты. Я не ведаю, як яна кожны кавалак для свайго вітража адмывае ад бруду, замазвае трэшчыны, расколіны ў ім, падразае, каб ён заззяў у патрэбным месцы, — гэта якраз і ёсць загадка і таямніца любой творчасці. Яе кніга — не проста пэўная колькасць фрагментаў, гэта — мастацкі акт Святланы Алексіевіч. У любога сярэднестатыстычнага журналіста я магу прачытаць, як пакутуюць чарнобыльцы, афганцы. Там жахаў дастаткова. Святлана Алексіевіч вылучылася з гэтых соцень і соцень журналістаў якраз таму, што змагла пераплавіць факт у мастацкі твор, праз творчы акт. А да якога жанру гэта аднесці — не так важна.

**М. Тычына.** Журналізм — гэта ўменне адчуць тое, што цікава ўсім. І ўжо ў другую чаргу — цікава самому сабе. Індывідуальнасць жа творчая тут выяўляецца ва ўменні "павярнуць" матэрыял у той ці іншы бок.

**П. Васючэнка.** Для вызначэння таго, у якім жанры піша Святлана Алексіевіч, лепш звярнуцца не да жанравай прыроды літаратуры, а да родавай. Нагадаю, што ёсць тры роды літаратуры, якія адрозніваюцца паводле пазіцыі аўтара — як ён ставіцца да жыццёвага матэрыялу: лірыка, драма, эпас. Творчасць Святланы Алексіевіч адносіцца да роду, які адкрыў Алесь Адамовіч: спроба стварэння звышлітаратуры, чацвёртага роду, калі аўтар не проста аб'ектывізуецца, але яго як бы і няма. У "Чарнобыльскай малітве", у адрозненне ад папярэдніх твораў, аўтар час ад часу пра сябе нагадвае. Яго прысутнасць — нейкі тон магутнай паліфаніі. Але за межы чацвёртага роду літаратуры, дзе аўтар адсутнічае, гэты твор усё-ткі не выходзіць.

**М. Тычына.** Леў Талстой на пачатку стагоддзя сказаў: праз гадоў сто будзе не мастацкая літаратура, бо ў ёй патрэбы ўжо цяпер няма, а чыстае жыццё, якое будуць запісваць, і аўтар зробіцца непатрэбным — і тады ўтворыцца сапраўдная літаратура. Мне здаецца, надыходзіць гэты момант. Але мастацкае слова нічым не заменіш. У кнігах Святланы Алексіевіч заўважаеш два прыёмы: маналог — і імя аўтара маналога. Трэці прыём — арганізацыя тэкстаў: гнаць па экспаненце ўверх да нейкай высновы. Дакументальная літаратура ўсё роўна не вытрымлівае канкурэнцыі з візуальнымі відамі мастацтва, мастацкай прозай. Успомнім фільм Віталя Шувагіна "Метанойя" са Стэфаніяй Станютай у галоўнай ролі: чарнобыльская тэма, раскрытая і маналогамі, і пейзажамі, і музыкай, і ігрой актрысы — усё вельмі ўражвае. А маналог дакументальнай прозы, калі ён не джойсаўскі, не фолкнераўскі, дзе ўвесьчасна новыя псіхалагічныя павароты, — не можа так уразіць, не ўкладваецца ў свядомасць. У творах Святланы Алексіевіч мне не хапае складанасці характару. Атрымліваеш шок, а катарсісу — няма. А мне патрэбны катарсіс, ачышчэнне.

**В. Акудовіч.** Алесь Адамовіч у свой час, расхвальваючы звышлітаратуру, казаў, маўляў, ці можа слова любога генія — Джойса ці Гамера — зраўняцца са шчырым аповедам вясковай бабкі пра жахлівыя акалічнасці вайны? Святлана Алексіевіч піша не чарнілам, а лёсамі, і піша сябе. Любы мастак піша сябе, як праблему. Чалавека без праблемы няма. Чалавек — гэта яго праблемы.

### ПРАБЛЕМА МАТЭРЫЯЛУ: КАТАСТРАФІЧНАЯ СВЯДОМАСЦЬ? ШОК ЦІ КАТАРСІС?

**М. Тычына.** У апошняй кнізе Святланы Алексіевіч "Чарнобыльская малітва" ёсць выпады супраць літаратуры як такой. Пісьменніца лічыць, што ўся ранейшая літаратура будуецца на хлусні: творы гераізуюць вайну, услаўляюць мужчын, апраўдваюць прагу крыві, бойкі. Закіды невыпадковыя. Святлана Алексіевіч добра адчувае, што ў свеце нешта змянілася, мусіць, ёсць патрэба перабудаваць жыццё, мараль на нейкай новай

# Прыказы — гэта...

## або Вандроўка па дарозе, якой няма

Усялякае "традыцыйнае наватарства" на надта ж пукатым і агрэсіўным фоне "нетрадыцыйных" пошукаў маладой беларускай літаратуры выдае ледзь ці не банальнасцю. Нават нейк і няёмка казаць пра якіясьці там навацыі ў развіцці традыцыйных тэм, вобразаў або жанраў — калі разнастайныя лацінскія тэрміны з прыстаўкай "дэ" ўсё больш выразна становяцца субстанцыяльнымі ў літаратурнай крытыцы: дэгуманізацыя, дэканструкцыя, дэфармацыя... Зрэшты, і гэты аксюмаран — традыцыйнае наватарства — я ўжыў толькі дзеля таго, каб пазбегнуць сапраўды банальных і голых фармальнасцяў кшталту "наватарства ў рэчышчы традыцыі", "смелае абнаўленне традыцыі", "наватарскае асваенне традыцыі" і г. д.

Аднак не сакрэт, што любы творца, паводле азначэння, адкрывае сябе ў пэўным канфлікце з гэтай самай традыцыяй або, калі не падабаецца, з прысутнай літаратурай, нязрушнай данасцю, **жывой** традыцыяй. Пытанне, урэшце, не ў тым, як канфліктаваць, а ў тым, ці канфліктаваць наогул: унікнуць стасункаў з існым, саскочыць з няспыннага цягніка літаратуры або ціхенька прытоіцца там зайцам-безбілетнікам — у пэўным сэнсе і ў прынцыпе адно і тое ж, і гэта, здаецца, куды прасцей, чым спрабаваць павярнуць цягнік у нейкі свой бок...

Адкрыццё новага жанру ды рэпрэзентацыя яго больш ад сарака адпаведнымі творамі, а менавіта на гэта прэтэндуе паэтычная кніжка Алеся Давыдава "Пройма", — безумоўна, падзея. Прыемна ды непамысна: яшчэ якіх-небудзь дзесяць гадоў таму такая заяўка выдавала б нават больш, чым прыкметнай, а сёння... А сёння я мушу рабіць непатрэбныя адступленні адно дзеля канстатацыі: штосьці адбылося; нешта адкрылася; не зблытайце гэта з тым, што ўжо ёсць.

У адным, параўнальна нядаўнім інтэрв'ю з Алесем Разанавым ёсць такія развагі: "Кожны твор у прынцыпе — гэта адкрыццё. Я ва ўсялякім разе не прыхільнік колькаснага нарошчвання вершаў. Мне цікава расці, мне цікава адкрываць. І калі кожны верш — адкрыццё, то, мабыць, яшчэ большае адкрыццё, калі адкрываецца нейкі жанр". Лагічна і справядліва, тым больш з вуснаў найвыбітнейшага вынаходніка ў беларускай паэзіі. Між тым, дачынна гэтак званай традыцыі разанаўская рэвалюцыя аўтарскіх жанраў выдатна зрабіла сваю справу. Размыццё раней існуючых ды нараджэнне новых названых і неназваных жанраў і жанрыкаў — усё гэта і само стала як бы пэўнай традыцыяй, а, стаўшы ёй, непазбежна набыло спадарожнае гэтаму слову негатыўнае адценне. Глядзі, і які-небудзь з прыдзірлівых крытыкаў, няхай ім сёння і буду я, з'ехіднічае дый перафразуе адну трапную разанаўскую заўвагу 80-х (памятаеце, пра "яшчэ адзін раман пра сучаснасць", "яшчэ адну дарожную нізку вершаў"): дык, можа, ёсць сэнс гаварыць, што літаратура **пабяднела** на яшчэ адзін аўтарскі жанр?!

Такі безапеляцыйны тон з нагоды ўзнікнення новага жанру ў свабоднай беларускай паэзіі абавязвае нас прыгадаць, чым жа яна багатая. Былі і ёсць: класічныя верлібры М. Багдановіча і М. Танка, напэўна ўжо стаўшыя класічнымі версэты, вершаказы, квантэмы й пункціры А. Разанава, таленавітыя творы У. Арлова, С. Верацілы, В. Шніпа, М. Лукшы, В. Слінко, М. Касцюкевіча, А. Кірвеля ды некаторых іншых нашых паэтаў. Вядома ж, можна спрачацца адносна маіх суб'ектыўных характарыстык, уносіць праўкі ў маю, бадай, адвольную паслядоўнасць, але бясспрэчна адно: творчасць кожнага з пералічаных мною аўтараў пазнаецца, бо мае свае адмысловыя рысы. А таму, каб не згубіцца сярод гэтых імёнаў, неабходна, пэўна ж, мець нешта сваё. Якраз пра адметнасці новага жанру ў "традыцыі нетрадыцыйнай" беларускай паэзіі — **прыказаў** Алеся Давыдава — і пойдзе далей гаворка.

Прыказы... Начутае вуха аматара беларускай паэзіі ўжо міжволі ловіць нешта знаёмае ў гучанні гэтага слова. Між тым, здавалася б, найбліжэйшая і найбольш натуральная ў даным выпадку аналогія з разанаўскім вершаказам аказваецца насамрэч даволі далёкай і наўрад ці апраўданай — дастаткова толькі непасрэдна параўнаць аднайменныя творы двух аўтараў ("Дарогу", "Сон", "Дуб" і інш.). Вось характэрны прыклад. Разанаўская "Дарога" пачынаец-

аснове. Гэтае адчуванне дае ёй магчымасць выявіць сваё "я". Святлана Алексіевіч закранае болевыя кропкі жыцця. Спачатку — вайна праз погляд жанчыны. Жанчына па самой сваёй прыродзе адмаўляе вайну. Кніга пра дзяцей вайны — той жа погляд: непрыняцце гвалту. Афганістан — тая самая вайна, якая ўспрымаецца як страшэннае варварства, дзікунства. Усведамленне, што ў трэцяе тысячагоддзе цягнуць армейскую, ваенную мараль злачынна. Кніга "Зачараваныя смерцю" пра мноства суіцыдаў падказана таксама жыццём: да якой духоўнай дэградацыі мы дайшлі. Тут іншая катастрофа — развал Савецкага Саюза. І апошняя кніга, "Чарнобыльская малітва" — нават дзіўна было б, калі б Святлана Алексіевіч не ўзялася за гэту праблему. Чарнобыль ставіць кропкі над усім: чалавецтва зайшло ў тупік. У мяне склалася ўражанне, што аўтарскае "я" Святланы Алексіевіч моцна залежыць ад матэрыялу. Калі матэрыял адпавядае яе першаснаму адчуванню каштоўнасці, гэта яе лепшыя кнігі: "У вайны не жаночае аблічча", "Цынкавыя хлопчыкі" і "Чарнобыльская малітва". Калі ж матэрыял мала адпавядае яе патаемнай задуме, атрымліваецца горш. У першай кнізе, да прыкладу, матэрыял "самазапальваўся", у апошняй — адчуваецца дыктат аўтарскай волі. Ад таго і героі падобныя — што акадэмік Несцярэнка, што гісторык, што простая вясковая жанчына. Яны мысляць на ўзроўні эмоцый.

**В. Акудовіч.** У самыя розныя перыяды гісторыі Святлана Алексіевіч шукае сябе. Я б назваў яе хранікёрам катастроф XX стагоддзя. Тым яна і цікавая, як чалавек і як мастак. Чарнобыльская катастрофа для Святланы Алексіевіч — гэта катастрофа будучага, і пісьменніца спрабуе прааналізаваць, чым гэтая катастрофа адрозніваецца ад папярэдняй. Але Святлана Алексіевіч не эсхаталагічны пісьменнік, а экзістэнцыяны. Яна піша не пра смерць, а пра пагранічную сітуацыю між смерцю і жыццём.

**М. Тычына.** Чамусьці яе хвалююць катастрофы масавыя. Мастак павінен быць захоплены катастрофай канкрэтнага чалавека, нават сабакі Джукі — героя апавядання Пташнікава.

**В. Акудовіч.** Я так не абсалютызаваў бы. Хіба мастак заўсёды піша канкрэтнага чалавека? А пейзажы?

**П. Васючэнка.** Вядома, што ваду можна нагрэць да 100 градусаў па Цэльсію, паперу — да 451 па Фарэнгейту. А ёсць тэмпературы, якіх мы ўжо не ўяўляем, напрыклад, тэмпература сонца. Ёсць факты, якія мы "возгоняем", а тады наступае мяжа, і мы перастаём адчуваць. Пісьменнікі, якія твораць у чацвёртым родзе літаратуры, якраз награвяюць думку да такіх велічынь, уявіць якія ўжо цяжка, яны змацыйна ўжо не дзейнічаюць. Але і з гэтага выбуху плазмы можна рабіць рацыянальныя высновы... Я адчуваю ў "Чарнобыльскай малітве" тэму першагрэхоўнасці чалавека: чалавек зазірнуў за забароненую заслону, куды яму заглядаць было нельга. Катастрофа заўсёды разбурае нейкія перагародкі. У першай кнізе Святланы Алексіевіч "У вайны не жаночае аблічча" рванула наверх наша непрыняцце вайны, натуральны пацыфізм. У "Чарнобыльскай малітве" — нейкі першабытны страх: страх любоўць, страх нарадзіць, страх пераступіць мяжу... І разваліўся савецкі Вавілон. Чалавек зазірнуў за заслону і хацеў бы яе зноў закрыць — бо ўбачыў нешта страшнае, але гэта ўжо немагчыма.

## ПРАБЛЕМА ІДЭНТЫФІКАЦЫІ: ТВОРЧАСЦЬ СВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ У КАНТЭКСЦЕ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ.

**М. Тычына.** Калі ў тэксце кнігі С. Алексіевіч сустракаецца "беларускі" кавалак, адразу з'яўляецца і паэзія, а за лірызмам — і трагедыя чалавека. А апошняя яе рэчы разлічаны не на беларускага чытача, а хутчэй на заходняга.

**В. Акудовіч.** Так, можна сказаць і больш жорстка, што ёсць падставы для абвінавачвання Святланы Алексіевіч у кан'юнктуры. Але ж кожны імкнецца быць актуальным. Неактуальнае мастацтва — гэта проста няздольнасць мастака быць актуальным.

**П. Васючэнка.** Проста мы чакаем, што калі пісьменніца піша пра Чарнобыль, яна піша пра Беларусь. Матэрыялы "Чарнобыльскай малітвы" сабраны ж на Беларусі...

**М. Тычына...** пра нашу "родную беларускую радыяцыю"... Але тут свая логіка, Чарнобыль — гэта ўсё-ткі — не наша. Не толькі наша.

**В. Акудовіч.** Ставіць Алексіевіч у віну, што яна не пісала пра Беларусь, недарэчна, бо яна нідзе не пісала і пра рускіх. Яна піша пра савецкіх людзей, апісвае ментальнасць савецкага чалавека.

**П. Васючэнка.** Хутчэй, у яе апазіцыя савецкай ментальнасці.

**В. Акудовіч.** Можа быць, феномен Святланы Алексіевіч у тым, што яна ідэнтыфікуе сябе не з пэўнай культурай, а з гуманізмам. Для яе чалавек ёсць найвышэйшая каштоўнасць. З болем за чалавека, які пакутуе і памірае, яна падыходзіць да Чарнобыля як да катастрофы, якая ляжыць у структуры іншых каштоўнасцяў, дзе чалавек ужо не ёсць каштоўнасць, дзе на смерць дзесяткаў тысяч чалавек свет не зважае. Святлана Алексіевіч падыходзіць да гэтых праблем са старой гуманістычнай этыкай. Хаця тут даводзіцца ўлічваць, што за межамі нашай краіны Святлану Алексіевіч якраз ідэнтыфікуюць менавіта з Беларуссю. У той час як яна больш арыентаваная на расійскую культуру.

**М. Тычына.** Для яе закрытая нацыянальная тэма, за якой і пачынаецца індывідуальнасць: чаму людзі вяртаюцца ў зону, да гэтай сваёй зямлі: яны ж прыкіпелі да яе.

**П. Васючэнка.** Нацыянальны пачатак на ўзроўні этнаграфізму.

**В. Акудовіч.** Пагаджуся, але са знакам плюс. Калі хто з вас чытаў апошнія нумары "Нашай Нівы", заўважыў, што там шляхам апытання складаецца спіс са ста лепшых беларускіх кніжак XX стагоддзя. І з ужо пяцідзесяці васьмі набраных дзве кніжкі — Святланы Алексіевіч. А ў "Нашай Ніве" чытач нюхам адчувае, дзе "наша", а дзе "не наша".

**П. Васючэнка.** Усё ж яе героі ў большасці — людзі з савецкай псіхалогіяй. У якасці прыкладу — эпізод з апошняй кнігі: бацька, герой-чарнобылец, прыехаў з зоны, усю адзежу выкінуў у сметніцу, а пілотку папрасіў маленькі сын — вельмі ганарыўся бацькам-героем. Насіў тую пілотку, не здымаючы. Праз два гады ў яго дыягназ — пухліна мозга...

**М. Тычына.** Ці жанчына-перасяленка, што вязе з зоны некалькі мяхоў з пустымі трохлітровымі слоікамі... Застаецца паважаць цяжкі крыж, які абрала сабе пісьменніца, стараецца перавесці яго на наша разуменне, нашы перажыванні. У нас свой шлях, у яе — свой, рэдкі.

**П. Васючэнка.** Гісторыя літаратуры пасля ўсё ацэніць, падсумуе. А сёння ў нас ёсць падзея літаратуры...

**В. Акудовіч.** Святлана Алексіевіч выдаецца ў свеце столькі, колькі, можа, усе беларускія пісьменнікі, разам узятыя. Калі гэта кан'юнктура, дай Божа нам усім быць такімі кан'юнктурнымі.

**М. Тычына.** Эксплуатацыя заходняй свядомасці — адкрываць ім незнаёмы свет.

**В. Акудовіч.** Культурны знак, які не прадаецца — аніякога не варты. Такіх знакаў Беларусі, якія ведаюць у свеце, у нас няшмат — прэзідэнт Лукашэнка, Вольга Корбут, Віталь Шчэрба, Святлана Алексіевіч... Кожны з іх — "достояние республики". І якраз чамусьці ўсе яны а-беларускія. Прасторава яны адносяцца да Беларусі, а сутнасна — не.

**П. Васючэнка.** Па-мойму, наадварот, культура — тое, што не прадаецца.

**М. Тычына.** Пісьменнік пазнаецца па тым, што ад яго чакаеш... Усе самыя яркія эпізоды беларускай гісторыі перабраны. Над чым далей будзе працаваць Святлана Алексіевіч? Над новай катастрофай?

**P. S.** Як стала вядома, зараз пісьменніца Святлана Алексіевіч працуе над новай кнігай — "Цудоўны алень вечнага палявання". Тэма кнігі — каханне.

**Падрыхтавала**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

ІМПРЭЗЫ

# Зорачкі Заслаўя

Упершыню за ўсю гісторыю Заслаўя ў гэтым старажытным мястэчку прайшоў паэтычны конкурс. Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў адбылася 20 сакавіка ў Заслаўскай гарадской дзіцячай бібліятэцы. Сваё валоданне паэтычным пяром паказалі вучні 3—11 класаў. Яны чыталі свае вершы пра Радзіму, маці, прыроду, каханне, школу. **"Якасць"** іх вызначала журы, у якое ўвайшлі загадчык рэдакцыі выдавецтва **"Юнацтва"** Уладзімір Марук, кіраўнік літаб'яднання **"Ручайкі"** Эдуард Гракові**ч** і супрацоўнік часопіса **"Першацвет"** Віктар Жыбуль. Пераможцамі конкурсу сталі тры юныя паэткі: Вольга Скарбыш, Вольга Бародзіч і Карына Кудлач. Яны прымуць удзел у абласным паэтычным конкурсе, які неўзабаве плануецца правесці ў Лагойску.

**В. БУЛЬЖЫНСКІ**

# Сустрэча з землякамі

У Зэльвенскім раённым Доме культуры адбылася літаратурная сустрэча з паэтам, рэдактарам выдавецтва **"Юнацтва"** Уладзімірам Мазго. На яе сабраліся настаўнікі і вучні райцэнтра, а таксама работнікі бібліятэк раёна.

Вядучая сустрэчы, загадчыца бібліятэкі сярэдняй школы **N 2** Яніна Шматко расказала аб творчасці паэта. Настаўнік Дзярэчынскай СШ Пётр Марціноўскі прааналізаваў сучасны стан літаратурнай Зэльвеншчыны. Школьнікі чыталі са сцэны вершы земляка, а салістка РДК Станіслава Прызван пад апладысменты прысутных выканала песню на яго вершы.

Уладзімір Мазго расказаў аб сваёй працы ў выдавецтве, прачытаў новыя творы, адказаў на пытанні, падарыў бібліятэцы кнігі пісьменнікаў — супрацоўнікаў выдавецтва **"Юнацтва"**.

Дарэчы, першыя вершы паэта 25 год назад былі надрукаваны менавіта ў Зэльве — у раённай газеце **"Праца"**.

**У. ПРАХАРЭНКА**

ца з самой дарогі: "Дарога — як рака: разгаліноўваецца на шматлікія прытокі — сцежкі і цячэ праз двары, гарады, агароды, усё закранаючы сабою і ўсё пакідаючы па-за сабою. Адзінага, каго яна не можа пакінуць, — гэта чалавека..." У прыказах жа мы павінны знаходзіць дарогу самі:

*Мяне пакінулі ўсе...*
*Ці я выракся ўсяго ды пабрыў*
*доўгаю дарогаю...*
*Я спазнаў вельмі мала,*
*сэрца агнела шуканнем.*
*Раптам наперадзе*
*з'явіліся пілігрымы,*
*падобныя да мяне, ды толькі*
*яны ішлі ўпоперак майго шляху.*
*Я саслабнуў, нейкая таемная сіла*
*не пускала нават наблізіцца да іх.*
*Тады я зазірнуў ім у вочы —*
*вачэй не было...*
*Адно зеўралі чорныя дзіркі.*

Парадаксальна, але чым болей матэрыялізуецца наша хада, тым слабейшым становіцца адчуванне самой дарогі. Урэшце, мы разумеем, што ніякай дарогі якраз і няма — адно ейны прывід пасярод вусцішнай, дапраўды анталагічнай пустаты ды яшчэ самі мы — на **гэтай** "дарозе" — змушаныя спыніцца...

*Я спыніўся зусім, і...*
*толькі вольны вятрыска паляцеў туды,*
*куды я прагнуў дайсці адзін.*

Гаворка, безумоўна, не толькі пра канкрэтны вобраз — дарогу. І нават не толькі пра "параджэнне рэчаў адсутных" (Валеры), у прынцыпе ўласцівае любой паэзіі. Істотная прыстаўка "пры", на якую ў слове "прыказ" прыпадае звычайны і, галоўнае, сэнсава-лагічны націск, пакідае "каз" напасля, прымушаючы нас узгадаць ці то вядомае з дзяцінства "гэта прыказка, а казка яшчэ наперадзе", ці то проста якую-небудзь з прысталых да языка прыказак. Напрыклад, вось гэту: "Сказаў А, гавары і..."

*Маляваў русявы хлопчык*
*бусла белага.*
*Уяўляючы, як вяслуюць*
*сінечу бязмежную*
*Яго дужыя скрыдлы*
*спрытныя.*
*Пакрышылася раптам*
*крэйдачка.*
*Па асфальце шархотным*
*шэранькім.*

("Згубнае")

Аднак на тое і прыказы, каб казаць толькі А і ў гэтым казанні прыадкрываць нешта іншае, наступнае, прышлае — зусім не падтэкст — а, так бы мовіць, пасля-тэкст. Пры-адкрываць, пры-чытаць, пры-гаворваць. (Апошняе няварта блытаць з недагаворанасцю, характэрнай, скажам для твораў Вераціла, або з паэтычна-магічным прыгаворваннем, дзе-нідзе заўважным у сугестыўнай паэзіі Міры Лукшы). Як у выпадку з працытаванай "Дарогай", пераважная большасць прыказаў, нягледзячы на свае намінатыўныя назвы ("Пакутніца", "Здрада", "Праўдзівыр", "Сон", "Гасцінец", "Дуб", "Звон" і інш.), зусім не прэтэндуе на, так сказаць, паэтычную наміналізацыю рэчаіс-насці. Найбольш характэрныя творы прачытваюцца як адмысловыя мастацкія ўводзіны да пэўнай ідэі, з'явы або рэчы, калі паэтызуецца выключна іх быційна-пазачасавая сітуацыя, а самі яны застаюцца нібы на парозе свайго жыцця. Паэт вяртае нас у свет неназваных рэчаў і нявыказаных ідэй, праўдзівы і непарушны пры-свет (памятаеце мандэльштамаўскі "мир до"?), кліча ў "спадкаемную сутнасць", "каб існы ўведалі шлях". Адсюль і яшчэ адна істотная асаблівасць жанру — своеасаблівая прытчавасць (прыказкавасць) твораў.

Прыказ — як маленькая "забытая" прытча:

*Калі ў вёсцы з'яўляецца нябожчык,*
*мой сусед сунецца на могілкі*
*вартаваць падрыхтаванае загадзя*
*месца.*
*— Нашто ты робіш гэтак? —*
*пытаюся ў дзівака.*
*— Каб не даваць хабару*
*ды не ляжаць у чарзе, —*
*сціпла адказвае ён. —*
*Хачу памерці чалавекам.*

("Памерці чалавекам")

Прыказ — як вялікая "адноўленая" прыказка (дзе бачны і сам працэс рэканструявання):

*Тухне агонь, калі не падкінуць галля.*
*Пятрэе дрэва, калі не стае вільгаці.*
*Кволіцца сэрца, як не жывіцца*
*сваім пачуццём.*
*Траціцца насалода,*
*калі няма загадкавасці.*
*Вобмаль шчасця, калі бракуе гора.*
*Ненароджанае мае ўсё і нічога.*

("Спакваля")

Застаючыся на "першасутнай гладзі" і ў адначас узіраючыся ў рэчаіснасць імёнаў і назваў, паэт непазбежна мусіць ставіць пытанні. "Куды збочыць?. Кім назвацца?" Развіваецца характэрная для прыказаў запытальная сітуацыя "разгубленага падарожнага на залюднаным гасцінцы":

*Страчаю знаёмых істот і дзіўлюся:*
*у горы — смяюцца,*
*у радасці — плачуць...*
*Сілюся іх зразумець —*
*здзеклівa ў твар мне рагочуць.*
*Бянтэжуся: хто вы?..*
*Хто я?..*

(З прыказа "Вызначэнні")

Апошняе з працытаваных пытанняў, ужо добра-такі зацяганае нашай паэзіяй за нядаўні час, становіцца ў прыказах неардынарным і нават, скажаў бы я, актуальным упоруч і дзякуючы іншай, але таксама запытальнай формуле "Ці ёсць я?..". Абодва гэтыя запытанні, якія відочна вынікаюць адно з аднаго, аказваюцца раўназначнымі. І, натуральна пашыраючыся на ўсё, што акаляе паэтава "я", абодва застаюцца прынцыпова нявырашанымі, як таго вымагае мастацкая канцэпцыя прыказаў...

Пытанні, пытанні... І на адно ці на два з іх (чым ёсць прыказы А. Давыдава? і ці ёсць яны?) я спрабаваў адказаць у гэтых нататках. Засталося ўзгадаць некаторыя істотныя моманты, якія я міжволі ўпусціў, захапіўшыся ідэнтыфікацыяй новага жанру.

Па-першае, па-за маёй увагай застаўся добры тузін твораў, у тым ліку і верш "Пройма", якія, будучы "традыцыйнымі" па форме, тым не менш, як мне здаецца, маюць прыкметны адбітак пануючай — прыказавай — манеры паэта. І хоць, як кажуць у такіх выпадках, не ўсё тое кепска, што на пагляд, усё ж чамусьці шкада, што творы гэтыя не сталі прыказамі ў поўным сэнсе.

Па-другое, не ўспомніў я ў палоне паэзіі і пра аснойны творчы профіль А. Давыдава — празаіка. Раблю гэта зараз не без прыемнасці, бо не падмануўся: зварот празаіка да паэзіі — заўжды факт цікавы і адмысловы.

І нарэшце, па-трэцяе, не сказаў я і пра тое, што ведаю Алеся Давыдава асабіста і што цяпер ужо здаецца мне ён чалавекам-прыказам — таемным, спакойным, удумлівым...

Бо стыль — гэта ўсё ж чалавек.
Чалавек — прыказ.
Каз — жыццё.
І казка яшчэ наперадзе...

**Мікола ВІЧ**

ПРОЗА

# КАЛЕЙДАСКОП

Лідзія АРАБЕЙ

## НАВЕЛЫ-КАРАЦЕЛЬКІ



### ПРАЗ ВЯКІ

Перачытвала прозу Пушкіна. І ўявіла раптам, як сядзеў некалі Пушкін за сталом і пісаў сваім гусіным пяром тое, што я цяпер чытаю. І наблізіўся той час, здалося, зусім нядаўна было гэта, і як добра, што, акрамя сваіх геніяльных вершаў, Пушкін пісаў і прозу — такую чыстую, празрыстую, дзе ўсё зразумела і разумна без "завумнасці".

### ВЕРА

Можна было паверыць у Бога сярод спакою навакольнага абсягу, сярод цішы глухога лесу, у таямнічым прыцемку вясковай цэркаўкі са святымі тварамі на абразах.

Як паверыць у Бога сярод мітусні і шуму вялікага горада, дзе людзі натоўпамі імкнуць па вуліцах, не бачачы адзін аднаго, дзе не засталося ціхай лапінкі ні ў лесе, ні ў полі, ні ў душы чалавечай.

### ЧЫТАЧЫ

Артыкулы ў газетах супроць п'янства чытае хто заўгодна, акрамя саміх п'яніц.

Разумныя артыкулы пра сённяшні дзень чытаюць тыя, хто і так усё разумее, і не бяруць нават у рукі тыя, каму трэба шмат што зразумець.

### ДА САМАЙ СМЕРЦІ

Бабулька гадоў пад семдзесят пяць перад тым, як легчы на аперацыйны стол, пудрыла твар і падмалёўвала бровы. І ўспомнілася карціна Гоі — пачварная старая перад люстэркам чапляе сабе на галаву модны капялюш. Карціна называецца: "Да самай смерці".

### ТВ

Шмат якія перадачы на тэлебачанні разлічаны нібыта на прыдуркаў. Відаць, такім бачыць тэлевізійнае начальства свой народ.

### АПОРА

Старэнькія муж і жонка ходзяць удваіх па дактарах, трымаючыся адно за аднаго. Калі заваліцца адзін, то і другога за сабою пацягне.

### АРГУМЕНТ

У жанчыны спыталі:

— Чаму ты галасуеш за гэтага кандыдата?

— Бо ён прыгожы, — адказала тая.

### ДЗІВОСЫ

Перад паездкаю ў Амерыку нас сабралі ў Высокім Доме і доўга тлумачылі — у якую страшную краіну мы едзем, што нельга там хадзіць па вуліцах па адной, абавязкова ўтраіх, і каб быў сярод нас мужчына, што на кожным кроку нас чакае там небяспека. Але мы часам не слухаліся тых павучанняў, хадзілі па вуліцах Сан-Францыска без мужчын і дзівіліся потым — як жа там было спакойна і ніхто нас не пакрыўдзіў.

### ПРАЗ ГАДЫ

Паставілі новага загадчыка рэдакцыі. Першае, за што ён узяўся — помсціць тым, хто яму нечым не ўгадзіў і каму зайздросціў. Адна з такіх акцый — велізарная рэцэнзія, у якой граміў раман таленавітага празаіка. Крыві сапсаваў таму нямала, але прайшлі гады — былы загадчык знік з літаратурнага гарызонту, а таленавіты празаік зрабіўся Народным.

### ПАКЛЁП

Узвялі на чалавека паклёп, быццам ён нешта ў некага ўкраў. Хоць потым было даказана, што гэта паклёп, пляма на чалавеку засталася. Людзі не памяталі ўжо, што там такое было, але засталася ў памяці "брудная гісторыя". Як у той прымаўцы — ці то ён паліто ўкраў, ці то ў яго паліто ўкралі...

### ІНСТЫНКТ

Мёртвы чалавек, нават самы блізкі, выклікае страх. Магчыма, таму, што ён дакрануўся ўжо да таямніцы, якая пільнуе і цябе. Што ён ужо на тым баку мяжы, цераз якую і табе наканавана перабрацца. І не розумам спасцігаецца гэта, а нечалавечым, жывёльным інстынктам.

### БАЗІС

Шмат хто з настальгіяй гаворыць пра савецкія часы, а я ўспамінаю, як душыліся ў сталее заказаў, што быў побач з маім домам, інваліды вайны, часам біліся мыліцамі, каб атрымаць той "заказ". Барані нас Бог, каб зноў вярнуўся той "базіс".

### ГОЛАС НАРОДА

Голас народа — голас Божы... Хто прыдумаў такое выслоўе, хлусліваe з пачатку да канца? Хто, калі не народ, вызваліў ад расправы злодзея Вараву і паслаў на крыж Хрыста? Крычалі ж на ўсю моц — "Распні яго!" А з якім захапленнем глядзеў той народ, як інквізіцыя паліла на кастрах ерэтыкоў. І зусім нядаўна, хто як не народ, крычаў: "Смерць ворагам народа!" і пад кулі ішлі самыя лепшыя, самыя чыстыя. Скажаце, то быў не народ, а натоўп? А адкуль натоўп бярэцца?

### РЭЗАЛЮЦЫЯ

На сходзе, прысвечаным выкрыццю касмапалітаў, які адбываўся ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, адзін слынны паэт гаварыў:

— Шкодная дзейнасць гэтых бяспачпартных брадзягаў накіравана ў самае сэрца савецкага мастацтва і літаратуры!

Другі паэт, яшчэ болей слынны, заявіў:

— Гэтым людзям, без роду і племені, вельмі не падабаецца бурны росквіт нашай культуры.

Сход у сваёй рэзалюцыі запэўніў, што беларускія савецкія пісьменнікі створаць новыя высокамастацкія творы, вартыя вялікай сталінскай эпохі.

Калі не сваімі галовамі думалі слынныя дзеячы беларускай культуры, то чаго чакаць ад простага народа, якому сёння ў галовы ўбіваюць новыя ісціны.

### ПОДЛАСЦЬ

На свеце было б куды менш подласці, каб яна не мела высокіх заступнікаў.

### АДБРЫЎ

— Чаму вы не шануеце родную мову, аддаяце на здзек нашу незалежнасць?

— А што, калі я загавару па-беларуску, ды гэтую вашу незалежнасць пашаную... Што, кілбаса ад гэтага дзешавейшая стане?

Ён быў упэўнены, што адбрыў, быў вельмі задаволены сваім, такім трапным адказам.

Вось вам і народ... Усё мерае на кілбасу...

### ЗАЛАТОЕ ВЯСЕЛЛЕ

Муж і жонка ў год свайго залатога вяселля, нажыўшы траіх дзяцей і пяцёра ўнукаў, пайшлі нарэшце ў ЗАГС і зарэгістравалі свой шлюб. Адкідаючы розныя буржуазныя забабоны, бальшавікі ў свой час адкінулі і такую непатрэбшчыну, як вянчанне ў царкве і наогул рэгістрацыя шлюбаў. Мужчына з жанчынаю сыходзіліся і жылі. Часам усё жыццё без роспісу.

### КАЛІ ХОЧАЦЦА ПЛАКАЦЬ

Сапраўднае мастацтва, гэта калі хочацца плакаць — ці ад спачування, ці ад захаплення, ці ад радасці.

### ПОМСТА

Новы рэдактар, прыйшоўшы ў часопіс, пачаў травіць сціплага, сумленнага супрацоўніка, харошага паэта, які некалі адважыўся рабіць заўвагі па яго рукапісе. Узводзіў на яго паклёпы, публічна абражаў. Так і з'еў чалавека, прымусіў пакінуць часопіс.

### ЗАДУМЫ

Усе злосныя задумы нараджаюцца ў мазгах чалавечых. Ахвяра ходзіць, есць і п'е, весяліцца, а ў нечай галаве ўжо сплецена для яго пастка. І столькі хітрасці, каварства прыдумваецца тымі мазгамі, што злачынства ўдаецца, а яго аўтар застаецца беспакараны. Страшнае асяроддзе — мазгі чалавечыя.

### УКАЗАННІ

Уважліва чытаючы перадавіцы ў кожным свежым нумары газеты "Правда", дырэктар выдавецтва Захар Пятровіч Матузаў падкрэсліваў чырвоным алоўкам "кіруючыя ўказанні". Потым збіраў супрацоўнікаў і даводзіў тыя ўказанні да іх. І не дай бог было пайсці насуперак.

### КАХАННЕ

Закахаўся ў маладую прыгожую жанчыну, пакінуў жонку з дарослымі ўжо дзецьмі. Але новая жонка не вельмі глядзела мужа, не вяла гаспадаркі — занятая была сваёй кар'ерай. Ён часам хадзіў абедаць да першай жонкі, якую пакінуў. Тая шкадавала яго, карміла.

### ПАКУТЫ

Пакутуеш фізічна, калі з экрана Беларускага тэлебачання ад мілай какетлівай дыктаркі чуеш: "Кропка погляду", "Забаўляльная праграма", "Справа ў капелюшы" і іншыя перлы.

### З ВЕКУ Ў ВЕК

Плыве час, мяняюцца адзенне, учасанне, тэхніка, але застаюцца ўсё тыя ж страсці — сквапнасць, зайздрасць, рэўнасць, каханне, славалюбства і імі з веку ў век жывіцца мастацтва.

### ЗЯМЛЯ

На старанна ўробленай, палітай потам зямлі вырасла кветка. Потым людзі апявалі яе харахтво і зусім не ўспаміналі зямлю, якая дала ёй жыццё.

### ЗАКОН

Закон быў такі, што каб абысці яго і атрымаць больш-менш прыстойную кватэру, мужу і жонцы прыйшлося анулявыць шлюб. І яны анулявалі — фіктыўна. Скора мужу спадабалася гуляць халасцяком. Тут і кабета падвярнулася — маладзейшая, прыгажэйшая за цяпер фіктыўную жонку. Патрэба ў кватэры адпала.

### ОРДЭН

Адной важнай установе па разнарадцы выдзелілі ордэн. Была пастаўлена ўмова: даць яго жанчыне, члену партыі, якая адпрацавала ва ўстанове не меней чым дзесяць гадоў, каб была замужняя.

Такую кандыдатку знайшлі. І ўручылі ордэн.

### КВЕТКІ

Спачатку муж насіў ёй кветкі. Потым — яна яму. На той грудок, пад якім ён спачыў навекі.

### БІБЛІЯТЭКА

Усё жыццё апантана купляў кнігі, сварыўся з жонкаю, якая працівілася такому яго захапленню, сабраў унікальную бібліятэку.

Жонка памерла. Дзеці з'ехалі ў Амерыку. А хутка і сам адышоў у лепшы свет. Засталася бібліятэка. І ніхто на яе не кваліцца. Людзі збяднелі, ім не да кніг.

### ПАХАВАННЕ

Хавалі жонку. А ён ніяк не мог паверыць гэтаму. Здавалася, ён на нечым чужым пахаванні. Альбо глядзіць страшны кінафільм.

### ПРЭЗІДЭНТЫ

Убачыла па тэлевізары, як прэзідэнт Татарстана Мінцімер Шаймiеў спяваў песню на сваёй роднай мове. І зрабілася да болю крыўдна, што наш прэзідэнт так пагардліва ставіцца да беларускай мовы, робіць усё для таго, каб яна зусім знікла.

### АДЗІН НА АДЗІН

Ашчасліві́ў Беларусь знакаміты Аляксандр Любімаў. Прывёз з сабою некалькі жырыноўцаў, вялікіх прыхільнікаў нашай улады. Падвыпіты, развязаны — вядома, прыехаў да дзікуноў — вёў сваю перадачу. І нашы дэмакраты, стоячы навыцяжку, лапаталі нешта ў сваё апраўданне, за нешта дзякавалі Любімаву, выглядалі, нібы школьнікі, якія нечага нашкодзілі.

### У ПАРКУ

У Навагрудак прыехаў здымацца ў кіно Уладзімір Высоцкі, прыехаў са сваёю жонкаю Марынаю Уладзі. Выходным днём пайшлі пагуляць у мясцовы парк. І пабегла па парку чутка — тут Марына Ўладзі, Марына Ўладзі, гераіня знакамітага фільма "Вядзьмарка"! Кінуліся шукаць, каб паглядзець на яе. А тая шыкоўныя валасы свае звязала ззаду ў вузельчык, на плячах — сціплы сарафанчык, на нагах — разношаныя басаножкі. Хіба ж гэта Марына Ўладзі? Ды мясцовыя паненкі ў святочных строях, з пышнымі ўчасаннямі куды прыгажэйшыя! А тут яшчэ пайшла чутка — у парку гуляе хлопец з малпачкаю на плячы. Кінулі глядзець на Марыну Ўладзі, пабеглі шукаць хлопца з малпачкаю.

### РАСЧАРАВАННЕ

— Цін-цін, цін-цін, — чуліся ў кватэры позна вечарам незнаёмыя гукі. Хацелася зразумець — што гэта, адкуль? І прыдумала сабе — гэта ён з космасу, дзе цяпер вандруе душа яго, пасылае ёй умоўныя сігналы...

Потым пачула тыя самыя гукі з майстэрні, што месцілася ў падвале. Там уключалі нейкі апарат. Зрабілася крыўдна.

### ЧАС

Артыста, некалі надта прыгожага, у якога былі закаханыя ўсе жанчыны, убачыла па тэлевізары — лысага, страшэнна пабрыдчэлага. Божа мой, нікога не шкадуе час...

### УВАГА

Да бабулькі ў бальніцу кожны дзень прыходзілі то дочкі, то нявесткі, прыносілі так шмат смачнай яды, што бабулька частавала ўсіх хворых у палаце.

Мусібыць, яна правільна пражыла жыццё, калі пад старасць мела столькі ўвагі.

### СЁСТРЫ

Бацька вельмі хацеў зблізіць сваіх дачок ад першага і другога шлюбаў. Старэйшай было дваццаць адзін, малодшай — васемнаццаць. Ён прывёў іх у кафэ, частаваў і ўсё казаў ім:

— Вы — сёстры, вы — сёстры, вы павінны сябраваць, павінны сябраваць.

Але, як той казаў, колькі ні кажы "халва", соладка ў роце не будзе. Гэта было першае і апошняе спатканне сясцёр.

### ЯК ДЗІЦЯ

Вецер, як дзіця, за дзень таміўся, вечарам аціхаў, клаўся на зямлю і засынаў. Раніцою прачынаўся і зноў пачынаў гуляць.

### ЛЫЖЫ

Яна была худая і высокая, ён нізенькі і паўнаваты. Калі яны ішлі разам, пра іх казалі:

— Вунь ідзе Іван са сваімі лыжамі.

### НАВУКА

Падышоў да фінішу, азірнуўся назад і скалануўся. Божа, як жа ён зглуміў сваё жыццё! Як не здолеў пакарыстацца дарам, што выпаў на яго долю — бачыць неба, аблокі, зямлю, кахаць жанчыну, гушкаць дзіця.. Загубілі п'янства, турмы. Людзі! Дайце сваім дзецям найпершую навуку — як жыць на свеце...

(Працяг на стар. 12)

## 25 гадоў — на сцэне



Таццяна Ліхачова — актрыса Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. Дваццаць пяць гадоў мінула з таго дня, як яе залічылі ў трупу тэатра. За гэты час яна сыграла шмат цудоўных роляў, сёння гледачы могуць убачыць яе ў ролі Соні з "Дзядзькі Вані" А. Чэхава, Дануты — у спектаклі "Час быка".

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Трохсоты спектакль



У тэатры юнага гледача прайшоў трохсоты спектакль "Чыпаліна і яго сябры" паводле вядомай аповесці-казкі Джані Радары. Спектакль жыве на сцэне тэатра з 1990 года. У спектаклі ўсе гэтыя гады заняты вядомыя акцёры тэатра Вера Кавалерава, Святлана Нiканчык, Іван Шрубейка, Міхаіл Пятроў і іншыя.

*На здымку: сцэны са спектакля "Чыпаліна і яго сябры".*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

## Персанальная выстава



У Віцебску адкрылася персанальная выстава аднаго з лепшых жывапісцаў Івана Міхайлавіча Сталярова, які прадставіў на суд гледачоў свае пейзажы.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# Акадэмік родам з Кальнікаў

## ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАСІЛЯ КУПРЭВІЧА

У той год у маёй вёсцы школа была толькі пачатковая. Я скончыў яе і пайшоў вучыцца ў 5-ы клас Смалявіцкай беларускай школы. Тады я ўпершыню ўбачыў Васіля Феафілавіча Купрэвіча, які настаўнічаў тут.

Калі я прыгадваю сваё юнацтва, дык абавязкова прыгадваю і класныя ўрокі, якія праводзіў Васіль Феафілавіч. Ён вельмі любіў прыроду і прывіваў гэтую любоў нам, падлеткам. Слухаў яго аповеды і мне здавалася, што я чую шапаценне жыта за бацькавай хатай, бачу россып зорак над полымем агню начлежнікаў, бярозавы гай за жытнёвым палеткам і бяскрайнюю неахопнасць прастораў, далёкія вёскі — усё гэта ядналася ў маім уяўленні ў цудоўным слове — Беларусь.

Цярплівы і настойлівы фармаваў Васіль Феафілавіч наш светапогляд, прывучаў да чытання кніг, вучыў шанаваць прыроду, ведаць гісторыю роднага краю...

Аднойчы, ведучы наш клас на экскурсію, настаўнік расказаў нам пра сваё дзяцінства. Нарадзіўся ён у сялянскай сям'і ў вёсцы Кальнікі Смалявіцкага раёна. Сям'я была вялікая і вельмі бедная. Бацька ў пошуках кавалка хлеба ўладкаваўся леснікам у Сафіёўцы, што непадалёк ад Оршы. І далейшае жыццё сям'і праходзіла сярод лесу, на сядзібе лесніка.

Скончыўшы ў 1913 годзе Смалянскую школу, Васіль Купрэвіч атрымаў спецыяльнасць аграномічнага старасты. Ён мог пайсці да якога-небудзь пана ў якасці прыганятага над яго парабкамі. Юнак разумеў, што гэта не для яго, таму ён складае ў скрыньку свой небагаты пажытак і накіроўваецца ў Пецярбург, дзе паступае ў школу юнгаў, якая была ў Кранштаце. У жніўні 1914 года маладых юнгаў прымусілі прыняць прысягу і накіравалі матросамі на баявыя караблі. Васіль Купрэвіч трапіў на эскадраны мінаносец "Самсон". У хуткім часе хлопца прызначылі камендорам. На гэтым эсмінцы ён прымаў удзел у так званых Маанзундскіх баях, якія праз некалькі дзён закончыліся перамогай рускай эскадры. Нямецкі флот страціў больш за 40 караблёў і вымушаны быў адступіць...

У 1918 годзе па стане здароўя В. Купрэвіч быў дэмабілізаваны з флоту. Каб не быць цяжарам для бацькоў, хлопец уладкоўваецца на працу настаўніка ў роднай вёсцы Кальнікі. Перайшоўшы ў Смалявіцкую сярэднюю школу, ён увесь аддаецца выхаванню сялянскіх дзяцей. У яго выявіліся здольнасці даследчыка-метадыста, імкненне зрабіць выкладанне прыродазнаўства цікавым для дзяцей, звязаць яго з глыбокім пазнаннем навакольнага асяроддзя.

У часопісе "Асвета" ў 1926 г. з'яўляецца артыкул В. Купрэвіча "Экскурсія на раку і школьныя феналагічныя назіранні". У наступным годзе ў тым жа часопісе была апублікавана новая яго работа: "Зімовая заалагічная экскурсія ў лес". У 1928 г. у часопісе "Наш край" — артыкул "Да пытання аб ахове прыроды". У тым жа часопісе праз год друкуецца артыкул "Лекавыя сродкі ў народнай медыцыне". Але першай навуковай яго працай лічыцца "Шкодныя, атрутныя і страўныя грыбы Смалявіцкага раёна" (1929 г.), у якой прыведзены спіс 237 відаў грыбоў.

Працуючы ў Смалявіцкай школе, В. Купрэвіч завочна вучыцца на аграбіялагічным аддзяленні Маскоўскага інстытута павышэння кваліфікацыі кадраў народнай асветы, які паспяхова заканчвае ў 1931 годзе. У тым жа годзе Васіль Феафілавіч пакідае працу ў Смалявіцкай школе, бо паступае ў аспірантуру. Тады ж ён быў накіраваны ў Батанічны інстытут Акадэміі навук у Ленінград.

Мы, яго вучні, і падумаць не маглі, што наш класны з часам стане слынным вучоным, што яго навуковая дзейнасць будзе вядома далёка за межамі нашай краіны, што ён стане членам-карэспандэнтам АН СССР, акадэмікам АН БССР, доктарам біялагічных навук, прафесарам, Героем Сацыялістычнай Працы, заслужаным дзеячам навукі Беларускай Рэспублікі, прэзідэнтам АН Беларусі, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і БССР.

Асноўны накірунак яго навуковай дзейнасці — мікалогія, эвалюцыя паразітызму, праблема віду, узбуджальнікі хвароб сельскагаспадарчых раслін. В. Купрэвіч з'яўляўся заснавальнікам глебавай энзімалогіі.

Я добра ведаў бацькоў Васіля Феафілавіча. Гэта былі сціплыя, працавітыя людзі. У гады вайны, стаўшы партызанам, я калі-нікалі заходзіў да іх. Стары Феафіл карміў нас, аддаючы апошняе, і заўсёды з непакоем і трывогай пытаўся, што з яго сынам Васілём. "Ён жа ў Ленінградзе жыў, — казаў нам Феафіл, — а Ленінград у блакадзе..." Ён быў вядомы ва ўсёй ваколіцы. Некалі, яшчэ пры цары, Феафіл ездзіў на заробкі ў Англію, адкуль прывёз некалькі саджанцаў высокаўраджайных вішань. Потым яны размножыліся сярод аднасяльчан. Яшчэ і цяпер людзі кажуць, што вішні ў іх вёсцы Феафілавы.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны, будучы прэзідэнтам Акадэміі навук нашай рэспублікі, Васіль Феафілавіч з жонкай Верай Аляксандраўнай кожны год прыязджаў у вёску Кальнікі, каб наведаць магілы бацькоў.

Неяк ён паскардзіўся мне, што хацеў, каб калгас парамантаваў хату, у якой прайшло яго дзяцінства. Нават грошы даў на рамонт. Ён хацеў, каб у гэтай хаце, пастаўленай яшчэ яго дзедам была бібліятэка для калгаснікаў. Абяцаў у бібліятэку прывезці шмат кніг. Але старшыня і рахункавод грошы ўзялі, а рамонту хаты не зрабілі.

Можна сказаць, што з Васілём Купрэвічам у многім звязана і маё творчае, пісьменніцкае жыццё. У свой час я напісаў аповесць "Камендор эсмінца "Самсон", якую прысвяціў свайму былому настаўніку. Пра Васіля Феафілавіча, прэзідэнта Акадэміі навук БССР, я напісаў нарыс, які друкаваўся ў часопісе "Беларусь".

Памёр Васіль Феафілавіч Купрэвіч пасля цяжкай хваробы 17 сакавіка 1969 года.

Смалявіцкая сярэдняя школа, у якой ён працаваў, носіць яго імя. Быў некалі на Балтыцы цеплаход "Акадэмік Купрэвіч". Пры Акадэміі навук нашай рэспублікі ёсць Інстытут эксперыментальнай батанікі, якому нададзена яго імя. У Мінску, на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1971 годзе на магіле В. Купрэвіча быў пастаўлены помнік, выкананы скульптарам З. Азгурам.

Памяць пра яго жыве ў сэрцах людзей, якія яго ведалі.

**Іван СІНЯЎСКІ**

# КАЛЕЙДАСКОП

*(Праця г. Пачатак на стар. 9)*

### ДВА ТАТЫ

Света айчыма называла татам, і роднага бацьку, які часам прыходзіў, — таксама татам.

Вера зайздросціла:

— Чаму ў Светы два таты, а ў мяне ніводнага?..

### БАГІ

Багатыя мужчыны і шыкоўныя жанчыны балявалі за сталом, устаўленым заморскімі закускамі. Морам лілося шампанскае, грымела музыка.

А ў гэты час скурчаныя, акалелыя, закінутыя абы-як зямлёю, ляжалі ў брацкай магіле ахвяры чачэнскай вайны.

З кім балявалі, што рабілі гэтым часам багі? Праваслаўныя і мусульманскі?

### КАХАННЕ

Закахалася ў мужчыну, але ён быў на пяць гадоў маладзейшы за яе. Не пайшла з ім на зблíжэнне. Падумала — пройдзе яшчэ пяць гадоў, потым яшчэ пяць, яна пастарэе і ён, сустрэўшы яе, падумае: і з гэтаю бабулькаю ў мяне быў раман?..

Перамагла тое дурное каханне.

### СТУПЕНІ

Каб жа хоць узяў лепшую за мяне, не было б так крыўдна, а то я вучоная, кандыдат навук, скора, можа, доктарам буду, а ён мяне пакінуў, узяў нейкую лабарантку...

Не разумела кабета, што мужчыне ў жанчыне патрэбны не вучоныя ступені, а нешта іншае, а што — Бог іх ведае...

### ГУЛІ

Ну і багатая наша суседка Расія, па тэлевізары з раніцы да вечара гулі-гулі, прызы-падарункі, да не абы-якія — машыны, тэлевізары, халадзільнікі, кватэры — на халяву, на халяву. Чаму толькі не хапае грошай на зарплату людзям, чаму пенсіянеры калупаюцца ў сметніках?

### ХВАРОБА

Мне гэтую хваробу Бог паслаў. От я хаджу па дактарах, лячуся. А то што б я рабіла цяпер у сваёй адзіноце?..

### МАМА

Яму часам уяўлялася тое, што ён не бачыў. Як вялі немцы пад дуламі аўтаматаў людзей з іх мястэчка. Там было шмат знаёмых, і там была ягоная мама. Уяўлялася, як дайшлі яны да ўскрайку лесу і як пачалі страляць па іх немцы. І як недзе балюча апяклі кулі цела ягонай ціхай, маўклівай, добрай мамы...

Ён прымушае сябе далей нічога не ўяўляць, але хіба прымусіш?

Дзве з паловай курыцы

Сястрэчка ў паліклініцы жалілася хворай:

— У мяне зарплата ў месяц — дзве з паловай курыцы...

### УСЁ ВЫПАДКОВА

Выпадак дорыць нам жыццё. Выпадак дае нам тых альбо іншых бацькоў. Выпадковыя сцежкі водзяць нас па зямлі...

І разам з тым — усё заканамерна. За нас нехта робіць так, як павінна быць.

### СЯБРЫ

У кватэры было холадна, і яна грэлася каля свайго вялікага кудлатага сабакі. Садзілася з ім на канапу, абдымала яго і, сагрэўшыся цяплом адно аднаго, яны абое, у вялікай дружбе, засыналі.

### ПОМНІК

Пісьменніца заказала помнік нябожчыку-мужу. А каб некалі не рабіць клопату сваякам, заказала выбіць на тым помніку і сваё прозвішча, імя. З часам да яго падселіцца.

Калі прыйшла ў майстэрню, устаўленую абеліскамі, каб паглядзець на той помнік, майстра, мужчына гадоў сарака, у рабочым камбінезоне, сказаў ёй:

— А я чытаў вашы кніжкі. У мяне іх дзве, а ваш раман я перачытваў разоў пяць.

Гэта было нечакана і незвычайна. Рабочы чалавек з палаца смутку чытаў яе кнігі, запомніў яе прозвішча... Можа, яна ўсё-такі недарма пражыла жыццё?

### ДЛЯ НЕСМЯРОТНЫХ

Памерла пажылая жанчына. Усё было як у людзей — труна, кветкі, заплаканая радня. Але вось прыйшоў час выносіць нябожчыцу і аказалася — труну нельга вынесці праз дзверы, вельмі вузкі калідорчык. Прыйшлося выносіць праз вакно — кватэра была, дзякуй Богу, на першым паверсе. Як толькі паказалася труна ў вакне, аркестр у двары зайграў жалобную музыку.

Дом будаваўся для несмяротных.

### БЕЗ МЯНЕ МЯНЕ ЖАНІЛІ

Зноў Любімаў, адзін на адзін. Гэтым разам сабраў дэпутатаў Расійскай Думы, ну і яшчэ — каментатараў у зале. Як жа адзінадушна аб'ядноўвалі яны Беларусь з Расіяй! Усе былі ўпэўнены ў неабходнасці такога акта. А адзін выступовец наогул заявіў, што беларусы ніякія не беларусы, усе яны — рускія. Як некалі царская Расія — не прызнавала беларусаў за народ, і баста. А можа, мы і праўда не народ, калі трываем такі здзек з сябе?

### ВОБРАЗ

Настаўнік гісторыі складае і спявае пад гітару свае песні. У адной з іх ёсць словы: Я ў садзе закапаў сынавы цацкі, абсеяныя нуклідамі... Не бяру ў двухоссе, бо не ўпэўнена, што дакладна іх запомніла. Але вобраз — той, дакладны і горкі вобраз Чарнобыля.

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

# Краіна Кіно

ЭСЭ-НАСТАЛЬГІЯ

## 1

Лёс кіно, бадай што, вельмі падобны на лёс чалавека: нараджэнне, дзяцінства, росквіт, сталенне і "фініш"... Усе гэтыя этапы, за выключэннем апошняга, "важнейшее из искусств" відавочна ўжо прайшло. Што ні кажы, а багатая ў яго біяграфія. У ёй было ўсё: узлёты і падзенні, шчасце і трагедыі. Усё як у людзей...

"Бацькі" кіно падчас з'яўлення на свет жаданага "чада" ўскладалі на яго вялікія спадзяванні і, здавалася, перабольшвалі, як, дарэчы, і ўсе бацькі, ягоныя перспектывы. Але сапраўдныя, рэальныя магчымасці кіно, якія адкрыліся пазней, "бацькі" тыя не маглі ўявіць нават у самым фантастычным сне. Кіно літаральна заваявала ўвесь свет, не пакінуўшы сваім "канкурэнтам" аніякіх шанцаў...

Дзіцянё расло не па днях, а па гадзінах. Не паспеўшы нарадзіцца, яно адразу выявіла незвычайную рухавасць і дынамічнасць, практычна за некалькі гадоў асвоіўшы амаль усе кантыненты. Трэба сказаць, не ўсюды немаўля сустракалі цёпла і сардэчна, але ў асноўным першае знаёмства праходзіла без асаблівых эксцэсаў. Прынамсі, у адведкі да "малога" тысячы людзей прыходзілі з непадробнай цікавасцю. Праўда, "жывыя карцінкі" даволі часта атаясамлялі з нячыстай сілай, але паступова да іх прывыклі і дазволілі экстравагантнаму "дзіцяняці" жыць і расці сярод іншых мастацтваў, што існавалі на той час у чалавечым грамадстве.

На першым этапе свайго жыцця "малое", як і належыць, не "гаварыла", прасцей кажучы, было "нямым". Але, як мы ўжо адзначалі, у дзіцяці быў на рэдкасць жвавы, эксцэнтрычны і непрадказальны характар. Уся тая багацейшая гама чалавечых жэстаў, мімікі, усемагчымых камбінацыяў рухаў, назалашаная чалавецтвам за тысячагоддзі свайго існавання, была засвоеная ім у надзвычай кароткія тэрміны. Гэта была таксама мова, прычым надзвычай выразная. Ёй былі па сілах даволі складаныя творчыя задачы, што ставіліся на першых этапах сталення новага віду мастацтва бацькамі-заснавальнікамі кіно. А калі на сціплым белым чатырохкутніку пасяліўся маленькі жвавы чалавечак з чорнымі вусікамі і ўсяіснаю палкаю ў руках, мова тая набыла незвычайна багатую эмацыйную і энергетычную афарбоўку — яна магла перадаваць найтанчэйшыя, найдалікатнейшыя зрухі чалавечай душы. Маленькі чалавечак з вельмі выразнымі і вельмі сумнымі вачыма рабіў з гледачамі ўсё, што хацеў: ён прымушаў іх жыць яго ўласным жыццём, злавацца і радавацца, смяяцца і плакаць разам з ім, быць шчаслівымі і пакутаваць...

Потым кіно, як і належыць дзіцяці, што падрасло, нарэшце "загаварыла". Нейкі час яно па інерцыі яшчэ захоўвала сваю рухавасць і эксцэнтрычнасць, але паступова сталела і станавілася ўсё больш памяркоўным і вытрыманым. На 30—40-ыя гады прыпадае "падлеткавы" перыяд у развіцці кіно, хаця і ў гэтыя часы ў яго зусім нярэдка выяўляліся зусім "дарослыя" рысы. Дастаткова згадаць хаця б галівудскі суперфільм "Знесеныя ветрам", які нават і сёння, праз шмат дзесяцігоддзяў, мала ў чым саступіць па мастацкім узроўні і прафесійнасці сваім "юным" калегам.

Найвялікшы росквіт кіно прыпадае на 50—70-ыя гады. Імёны Феліні, Бергмана, Таркоўскага і многіх іншых трывала ўвайшлі ў залаты фонд дасягненняў сусветнай культуры. Але ўжо напрыканцы 80-ых з надыходам эры "масвідэа" кіно пачало саступаць свае пазіцыі. Загаварылі пра яго занепад. І ўсё ж пытанне, ці будзе ў кіно, як і ў кожнага чалавека, "апошні парог", застаецца адкрытым. У кіно не зніклі шанцы выжыць у жорсткай канкурэнцыі з відэа. Дзеля гэтага, безумоўна, неабходныя прынцыпова новыя якасныя пераўтварэнні і найперш у тэхналагічным плане. Бо не сакрэт, што ў масавага тэлебачання існуе свой вельмі пэўны выяўленчы дыяпазон. На тэлеэкране буйныя сакавітыя масавыя сцэны спецыфічнага, суперaб'ёмнага маштабу нівеліруюцца, змазваюцца і практычна не даходзяць да гледача. Такім чынам, у "вялікага" кіно застаецца свая адмысловая творчая ніша — шырокаахопны, буйнамаштабны відэашэраг, дзе найноўшыя тэхналагічныя дасягненні змогуць знайсці найлепшае прымяненне... На такога кшталту мастацкую прадукцыю заўсёды будзе свой глядач-спажывец. Менавіта ў гэтым кірунку ёсць, на наш погляд, шанц для далейшага развіцця "вялікага" кіно.

## 2

У кіно, як і ў любога чалавека, у кожным узросце быў свой пэўны "выраз твару". Дзіцячы, гарэзлівы ў перыяд дзяцінства — на пачатку стагоддзя і ў 20—30-ыя гады; яркі, прывабны, пранікнёна-ўдумлівы — у перыяд росквіту; пераважна суровы, момантамі бязлітасна жорсткі, а часам нават і агідны — у сённяшнюю масэпоху. На гэтым "твары" адлюстроўваліся ўсе "хваляванні" і "сумненні", пакідалі свае (часам і незагойныя) сляды правалы і катастрофы. Бадай што, ні ў адным відзе мастацтва, ды і ўвогуле ні ў адной сферы чалавечай дзейнасці не было магчымасцяў так выявіцца чалавечай асобе, каб адразу, амаль імгненна стаць шырокавядомым і любімым для УСІХ — як для салідных англійскіх лордаў, так і для непасрэдных, як дзеці, папуасаў Новай Гвінеі. Ні ў якім відзе мастацтва немагчымы быў такі шчодры "зарапад", калі ледзь не кожны дзень нараджаліся, ярка загараліся, імкліва і вельмі высока ўзляталі (часам імкліва падалі) усемагчымыя зоркі і зорачкі.

Кіно сапраўды было ўсяісным і ўсеўладным. Яго шчыра і аднолькава моцна любілі шведы і датчане, італьянцы і іспанцы, кітайцы і індусы, афрыканцы і амерыканцы. Што да Амерыкі, то там кіно нават стала сапраўднай дзяржавай у дзяржаве, са сваёй пэўнай назвай, сваёй тэрыторыяй, сваімі межамі, сваёй "канстытуцыяй", сваім насельніцтвам... Але да гэтае Краіны Кіно належалі не толькі жыхары Галівуда. Яе насельніцтвам, па сутнасці, сталі практычна ўсе людзі планеты, розныя па ўзросце, сацыяльным становішчы, нацыянальнасці. І была ў той краіне адна, зразумелая ўсім мова кіно, якая ў асноўным лёгка засвойвалася, незалежна ад інтэлектуальнага ўзроўню яе карыстальнікаў. Салідныя прафесары і падмятальшчыкі вуліц, каралі і даяркі, генсекі і пагоншчыкі вярблюдаў, камуністы і буржуі — усе лёгка разумелі чароўную мову кіно. Гэты ўсяісны від мастацтва імгненна ператвараў іх у адну знітаваную народнасць — гледачоў. Чалавецтва, бадай што, так і не ўсвядоміла, якім унікальным сродкам лучнасці ўсіх людзей планеты магло б стаць кіно, які магутны патэнцыял хаваўся ў белым чатырохкутніку. Ніякія ідэі і рэлігіі, грошы і сіла не ў стане былі так, як кіно, аб'ядноўваць людзей абсалютна розных сацыяльных, нацыянальных і палітычных слаёў. На жаль, кіно пайшло пераважна камерцыйным шляхам. Забаўляльны яго фактар, сам па сабе, безумоўна, надзвычай важны, але прызначаны па сутнасці сыграць ролю яркай, прывабнай абгорткі для "цукеркі"-відовішча, паступова стаў самакаштоўным. Шанц выкарыстаць універсальныя магчымасці кіно для "разрадкі напружанасці" ў свеце быў практычна не скарыстаны. Хто ведае, колькі войнаў, кровапраліццяў магло б быць спынена на зямлі, калі б кіно як след "заклікала" пачуць, зразумець адзін другога, да ўзаемапрымірэння...

Але, на жаль, усё адбылося наадварот. Кіно інтэнсіўна пачалі выкарыстоўваць як ідэалагічны сродак для НАЦКОЎВАННЯ адной часткі грамадства на другую, для культывавання не любові і дабра, а гвалту і прымітыўнай сілы, якая, быццам бы, толькі і здольная вырашыць усе праблемы. Безумоўна, лепшыя майстры кіно шмат зрабілі, каб супрацьстаяць гэтаму, і Краіне Кіно ёсць чым ганарыцца ў духоўным і гуманістычным плане. Але, падкрэслім, велізарны стваральны патэнцыял такога масавага і даступнага ўсім віду мастацтва не быў да канца рэалізаваны. Больш за тое, пры дапамозе кіно даволі часта закладвалася ў свядомасць людзей маральнае абгрунтаванне неабходнасці Гулагаў і Асвенцімаў, Хірасім і Нагасакі. Мусіць, і праз кіно таксама пралягалі шляхі да Чарнобыля, В'етнама, Афганістана, Босніі і Чачні, да такога сённяшняга стану, калі чалавечае жыццё стала каштаваць часам не даражэй за квіток на чарговы кінасеанс...

Будзем справядлівымі, не самое кіно, з ягонаю першапачатковаю светлаю душою, вінаватае ва ўсім гэтым. Адказнасць за тое, што з прамяністага, чароўнага "дзіцяці", якое падавала такія добрыя надзеі, вырасла вельмі складаная, вельмі супярэчлівая "істота" з надзвычай спецыфічнымі схільнасцямі, нясуць у значнай ступені тыя "выхавальнікі" і "карміцелі", якія імкнуліся праз кіно вырашаць свае пэўныя ідэалагічныя і прагматычныя задачы. Але не толькі яны. Кіно заўсёды было люстэркам маральнага, палітычнага, сацыяльнага "твару" грамадства — гэта значыць, усе не самыя лепшыя рысы ягонага характару былі закладзены генетычна...

І такую вось неадназначную "істоту", крайне непрадказальную і экзальтаваную, але вельмі абаяльную і сімпатычную, любілі амаль усе. Ды яе і немагчыма было не любіць, як немагчыма ў прынцыпе чалавеку не любіць жыццё, свет, самога сябе. Як толькі энергія такой любові перарываецца, чалавек знікае...

## 3

А ўжо як любілі кіно ў Савецкай краіне, якое значэнне мела кіно для абсалютна новага віду чалавечай супольнасці — homo sovyetikus, цяжка нават і перадаць. Кіно было для гэтага практычна занармаванага па ўсіх "параметрах" чалавека не проста ўцехаю, забаваю — яно было ледзь не Богам! Ды і ці магло мастацтва чароўных ілюзій не быць арганічным у краіне ілюзій? Гэта светлае мастацтва ў сістэме, якая ваўсю будавала "светлае будучае", было крайне неабходным. За кіно адразу прызналі ролю "важнейшего из искусств".

Многія дзесяцігоддзі, асабліва да з'яўлення масавага тэлебачання, кіно было ледзь не адзіным ваконцам у іншы, зусім непадобны на бязрадаснае, жорсткае жыццё, свет, дзе існавалі прыгожыя, годныя людзі, што смачна елі і пілі, элегантна апраналіся, перамяшчаліся не толькі на "сваіх дзвюх" ці на запрэжаным канём возе, але і на неверагодных аўто, гаварылі прыгожыя, правільныя і разумныя рэчы — словам, з'яўляліся тым ідэалам, да якога і павінен імкнуцца чалавек. Менавіта кіно было чароўным наркатычным нектарам-напоем, які прымушаў забыцца пра ўсё дрэннае на свеце — і пра недавыкананы дзённы план па зборы каласкоў у полі ці выплаўцы сталі, і пра халодны барак з жорсткімі нарамі, што чакаў пасля сеанса, пра так-сяк апранутых дзяцей, якія чамусьці ўвесь час просяць есці, ды і ўвогуле пра самое няўтульнае заўтра...

Ніколі не забыцца, як напрыканцы 50-х маці апранала нас, яшчэ зусім малых, і з маўклівай згоды бацькі раз на тыдзень (здаецца, у суботу), як на нейкі свяшчэнны рытуал, вяла ў вясковы клуб, дзе ў густым (хоць сякеру вешай) махорачным дыме дэманстраваўся чарговы кінашэдэўр. Клуб той быў заўсёды перапоўнены — "на кіно" шлі як малыя, так і старыя. Часта "заезджаная" кінастужка рвалася, ці старэнькая "Украіна" ламалася, і тады падчас вымушанае паўзы пачынаўся гаманлівы "прэс-клуб" — гледачы бурна абмяркоўвалі і каментавалі (не горш за прафесійных кінакрытыкаў) толькі што бачанае на экране.

А з экрана — чароўнага чатырохкутніка (часам гэта была звычайная прасціна) да нас літаральна ўрывалася дзіўнае незнаёмае жыццё ў надзвычай яркім афармленні — акрамя савецкага кіно, дэманстраваліся часам і "імпартныя" фільмы. І мы, вясковыя хлопчыкі і дзяўчынкі, адважна кідаліся разам з героямі з высокіх абрываў у бурныя рэкі, ліха шлі ў шалёныя кавалерыйскія атакі на ненавіснага ворага, былі актыўнымі ўдзельнікамі (зусім не зважаючы на свой зусім не салідны ўзрост) усемагчымых, надзіва прыгожых, рамантычных сцэн...

Кіно, пры ўсёй умоўнасці гэтай пасылкі, фармавала з нас, яшчэ зусім малых, але ўжо дастаткова выпрабаваных штодзённаю непасільнаю сялянскаю працаю, асоб з пэўнымі духоўнымі каардынатамі. У сваіх марах і летуценнях мы ўсяляк імкнуліся "адпавядаць" іміджу кіназорак, быць падобнымі на іх. Хто ведае, можа, потым, у "дарослым" жыцці, калі прыйшлося сутыкнуцца з далёка не ўмоўнымі праблемамі і непрыяцелямі, якраз той рамантычны дзіцячы кінавопыт і аказаўся для нас карысным...

Праўда, была яшчэ адна не менш чароўная краіна, якая не толькі не ўступала кіно ў плане фармавання нашага духоўнага вобліку, але і, бадай што, пераўзыходзіла яго — Краіна Кнігі. Яе ўплыў на нас быў, безумоўна, велізарны... Але гэта тэма для асобнай гаворкі. Што да кіно, то яно, узбагачаючы нашае вобразнае светаўспрыманне, вырывала нас са звыклага, часта вельмі прыгнятальнага жыццёвага кантэксту і пераносіла ў невядомыя захапляльныя далі, дзе было зусім іншае жыццё...

## 4

Для многіх з нас вясковае кінадзяцінства змянілася на змястоўнае гарадское кінаюнацтва, калі згадаць, што многія вясковыя юнакі і дзяўчаты ў тыя часы імкнуліся пасля школы як мага хутчэй з таго "кантэксту" вырвацца. Такое наша памкненне было суровао прозай жыцця, калі бацькі, якія раней імкнуліся зрабіць дзяцей прадаўжальнікамі сваёй працы на зямлі, усялякім чынам самі спяшаліся выправіць нас як мага хутчэй з гінучага калгаснага "раю" ў горад, дзе былі хоць якія шанцы зачапіцца за "сапраўднае" жыццё. Ужо адзін гэты факт, калі свядома перарывалася тысячагадовая сувязь пакаленняў, калі спаконвечных землеробаў прымусілі ўцякаць з зямлі, закрэслівае УСЕ "плюсы" сістэмы, якая прэтэндавала на ролю самай справядлівай.

У тым нашым кінаюнацтве было шмат чаго новага, нязведанага. Якраз напрыканцы 60-х пачалі з'яўляцца на экранах мінскіх кінатэатраў, якіх, дарэчы, было ў той час каля 20-ці, заходнія "кінахіты", накшталт "Фантамаса", "Спартака" і г.д. У чэргах па білеты на такія фільмы, прычым за некалькі дзён да сеанса, людзі выстойвалі часам не адну гадзіну. У тых чэргах часам прыходзілася вытрымліваць сапраўдныя бітвы за жаданы квіток. Ніколі не забуду, у якім выглядзе літаральна "выпаўз" з чаргі ў кінатэатры "Мір" адзін наш далёка не самы хілы аднакурснік, які рызыкнуў дабыць для нас квіткі на чарговы кінахіт (гэта быў югаслаўскі кінафільм "Дзяўчат не бяром"). Але затое ў руках ён трымаў запаветную блакітную стужку квіткоў на самы апошні сеанс (на 22 гадзіны) на ўвесь наш зусім не малы інтэрнацкі пакой. Ці трэба казаць, наколькі шчаслівымі былі мы ўсе? Для сённяшніх маладых людзей такі вось ажыятаж можа падацца непраўдападобным. Але што было, тое было. Людзі маглі прастаяць у чэргах цэлую ноч, каб патрапіць на якую-небудзь "Есенію" ці "Няўлоўных мсціўцаў".

Кіно сапраўды было для нас, маладых, ды і не толькі для маладых, цэлым светам, дзе мы маглі хоць ненадоўга адхіліцца ад не вельмі аптымістычнай рэчаіснасці... Дарэчы, зусім не саступалі заходнім па папулярнасці і лепшыя ўзоры тагачаснага савецкага кіно. Былі і ў савецкім кінематографе сапраўдныя майстры, якія таксама ўмелі зрабіць на экране свята для гледача, прымусіць хоць на гадзіну-другую забыць пра сваё незайздроснае быццё. "Белае сонца пустыні", "Экіпаж", "Масква слязам не верыць" — гэты шэраг можна доўжыць і доўжыць — па касавым зборы не адставалі, а то і пераўзыходзілі якія-небудзь "імпартныя" "Анжэліку" ці "Мільён гадоў да нашай эры"...

Аднак пры ўсёй нашай тагачаснай заідэалагізаванасці мы не маглі не заўважаць у заходніх стужках вельмі адрознае ад нашага, якасна несупастаўімае жыццё. Праўда, успрымалася яно намі ў асноўным як нейкая фантастыка, казка, але след у душах пакідала значны. На нашу думку, менавіта кіно ў 50-60-70-х гадах паціху расхістала, здавалася, непарушны і вечны падмурак "развітога сацыялізму", закідвала ў нашыя душы тое насенне, якое потым, напрыканцы 80-х — пачатку 90-х, "прарасло" ў вельмі бурных палітычных і эканамічных узрушэннях у грамадстве... На экране людзі бачылі навідавоку, што чалавек можа выконваць у сваім жыцці ролю не толькі вінціка, што яго можна паважаць і цаніць, што чалавек той можа і павінен жыць у прыстойных умовах...

Ніхто сёння не вызначыць дакладны ўклад кіно ў станаўленне вельмі многіх з нас як ЛЮДЗЕЙ, якія не хочуць болей жыць па-ранейшаму, якія пасля дзесяцігоддзяў духоўнай стагнацыі грамадства пачалі нарэшце працэс "рэстаўрацыі" па-чалавечы годнага жыцця. Усё ж відавочна: кіно не толькі дэманстравала нам малюнкі чужога, амаль казачнага жыцця, але і няўхільна сцвярджала, што нічога ў прынцыпе казачнага і чароўнага ў тым жыцці няма, што яно, тое жыццё, якраз НАРМАЛЬНАЕ. Мусіць, за гэта мы і любілі і шанавалі кіно, што яно давала нам надзеі пераўтварыць ілюзіі ў рэальнасць.

Перыяд, калі ў нашым грамадстве пачаліся зрухі да новага, супаў з пачаткам падзення ўплыву "вялікага" кіно, змяншэннем яго ўздзеяння на нашае жыццё. Але гэты від мастацтва сваю справу ўжо зрабіў — ён разварушыў нас і прымусіў вельмі многа задумацца над сваім жыццём. І цяпер, калі роля кіно вельмі трансфармавалася, калі ўсё болей актыўна ідзе на наш духоўны рынак "дзевяты вал" заходняй відэапрадукцыі, часта далёка не лепшай якасці, мы ўсё роўна не забудзем тую цудоўную Краіну Кіно, дзе мы былі такія маладыя і шчаслівыя, дзе прыходзілі ў нашыя душы свята і надзея.

## З класікай — да Галубка



**Творчыя сустрэчы з маладымі выканаўцамі зрабіліся добрай традыцыяй у сталічнай тэатральна-музычнай гасцёўні У. Галубка. Нядаўна прайшоў тут вечар камернай музыкі. У ім бралі ўдзел лаўрэат міжнароднага конкурсу студэнт Беларускай акадэміі музыкі Алег Кавалеўскі (барытон) і дыпламант міжнароднага конкурсу Мікалай Сярдобаў (фартэпіяна).**

**Выканаўчае майстэрства маладога спевака ўжо вядома ў музычным асяроддзі. У мінулым годзе ён паспяхова выступіў на Міжнародным конкурсе вакалістаў імя А. Дворжака і атрымаў III прэмію. Вызначаючы творчы дыяпазон Алега Кавалеўскага, варта згадаць некалькі вядучых оперных партый, у якіх выступіў малады спявак: Сільвіо ў "Паяцах" Р. Леанкавала, Яўген Анегін у аднайменнай оперы П. Чайкоўскага, Жэрмон у оперы Д. Вердзі "Травіята". Відавочная прыхільнасць выканаўцы да твораў камернага жанру, і, у першую чаргу, рамансаў П. Чайкоўскага і С. Рахманінава. Менавіта з гэтай праграмай выступіў ён у канцэртнай зале гасцёўні У. Галубка.**

**Камерна-вакальны жанр даволі складаны для выканання. Так, у межах невялікага твора раскрываецца псіхалагічная драма, споведзь ці ўспамін пра мінулае. Прыемна адзначыць, што А. Кавалеўскі здолеў знайсці і перадаць настрой і эмацыянальны дыяпазон вакальнай лірыкі.**

**Шматгранны свет чалавечых пачуццяў і перажыванняў быў перададзены ў рамансах П. І. Чайкоўскага "Нет, только тот, кто знал", "Растворил я окно", "Хотел бы в единое слово". Вобраз прыроды, гарманічны, велічны тонка перадаў выканаўца ў рамансе "Благословляю вас, леса".**

**У другім аддзяленні А. Кавалеўскі спяваў рамансы С. Рахманінава на вершы рускіх паэтаў: "Сон", "В молчаньи ночи тайной", "Я был у ней", "Все отнял у меня". У вакальнай інтэрпрэтацыі выканаўцы яны вызначыліся паэтычнай пранікнёнасцю, тонкай эмацыянальнасцю. Творчай манеры Алега Кавалеўскага ўласцівыя шчырасць і непасрэднасць перадачы пачуццяў, лаканічная манера стварэння музычнага вобраза. У значнай ступені гэтаму спрыяе прыгожы голас і высокапрафесійная вакальная школа (клас прафесара народнага артыста Беларусі А. Генералава). Прыемна ўразіла выкананне арыі Ялецкага з оперы П. Чайкоўскага "Пікавая дама", і каваціна Алека з аднайменнай оперы С. Рахманінава.**

**Дастойным партнёрам Алега Кавалеўскага ў той вечар быў канцэртмайстар Мікалай Сярдобаў.**

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ**

## Запрашае "Змена"

**Мінскі кінатэатр "Змена" працягвае адраджэнскія мерапрыемствы.**

**24 красавіка ў 18 гадзін пачынаецца кінапраграма дакументальных фільмаў кінастудыі "Летапіс". Можна не толькі пазнаёміцца са стужкамі "Адлучэнне", "Смутак", "Чарнобыль. Попел", а і сустрэцца з народным мастаком Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Г. Вашчанкам і рэжысёрам С. Лук'янчыкавым.**

**На 14 гадзін 25 кастрычніка запланавана дэманстрацыя дакументальнага фільма "Пранясі, Божа, хмару". На сустрэчу прыйдзе рэжысёр А. Шклярэўскі.**

**"Чорны бусел" — так называецца мастацкі фільм, які В. Тураў стварыў па матывах аповесці В. Казько "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел". Паглядзець гэтую стужку можна ў дзесяць гадзін 25 красавіка.**

**Магчыма, вас зацікавіць дакументальны фільм "Пейзаж пасля бітвы" (аўтар сцэнарыя і рэжысёр У. Дашук)? Тады вы зможаце яго паглядзець 22, 23 і 26 красавіка. Пачатак у 14 гадзін.**

ЮБІЛЕЙ

# "Вясёлка" — гэта надзея на дабро

Не так даўно, калі быў на сустрэчы з вучнямі Смалявіцкай СШ N I, якая носіць імя вядомага вучонага, акадэміка В. Ф. Купрэвіча, мяне нечакана спыталі: "А чаму часопіс назвалі "Вясёлкай"? І хто прыдумаў яму такую назву?" "А як вы думаеце самі? — спытаў іх я. — Што такое — вясёлка?"

Ажывіліся, загаманілі дзеці наперабой: "Вясёлка — гэта прыход вясны. Вясёлка — гэта нябесны масток, па якім ходзіць сонейка. Вясёлка — гэта цяпло. Вясёлка — гэта вясёлы настрой. Вясёлка — гэта сем колераў, якія радуюць людзей. Вясёлка — гэта надзея на дабро, калі ўбачыш яе. Вясёлка — гэта наша дзяцінства..." І што ні адказ, то праўда. Напэўна, усё гэта мелася на ўвазе, калі сорак гадоў назад у памяшканні старэйшага беларускага часопіса "Бярозка" сабралася рэдкалегія будучай "Вясёлкі" (свайго кутка тады яшчэ не мелі), каб, як кажуць, юрыдычна аформіць нараджэнне новага дзіцячага часопіса. "Назавіце яго "Вясёлкай", — падказаў тагачасны рэдактар "Бярозкі" пісьменнік Усевалад Ігнатавіч Краўчанка. Назва ўсім спадабалася.

Пра тое, адкуль прыйшла назва да часопіса, я даведаўся толькі нядаўна. Але я добра помню, як ён упершыню з'явіўся ў нашай школьнай бібліятэцы. У красавіку 1957 года. Помню радкі верша Сяргея Грахоўскага, якімі ён адкрываўся:

***Распраўляе крыльцы пчолка,***
***зелянее збажына.***
***Загарэлася вясёлка —***
***будзе добрая вясна.***

Застаўся ў памяці таксама наказ у дарогу любімага пісьменніка беларускай дзятвы Янкі Маўра: "Дарагія маленькія сябры! Вось і да вас прыйшоў новы часопіс. Знаёмцеся з ім, чытайце і перачытвайце, пасябруйце з ім — і вы ўбачыце, што ён можа быць вашым добрым, цікавым і вясёлым таварышам..." Прызнаюся, я сябе ўжо не лічыў маленькім: як-ніяк вучыўся ў сёмым класе. Але пасябраваў з часопісам адразу, быў шчыра рады, што ён з'явіўся ў нас. Чаму? Сакрэт просты: былі ў ім вершы, апавяданні, казкі. І ўсе — новыя. Да таго ж, і сам нешта пісаў, марыў надрукавацца... Не адразу, але мая мара збылася. З рэдакцыі аднойчы прыйшоў ліст, падпісаны Алесем Пальчэўскім, а ў ім нечаканая навіна: два мае вершы будуць змешчаны ў лістападаўскім нумары. Было гэта ў 1959 годзе, і вучыўся я ўжо ў дзесятым класе. Яшчэ болей ашаламіў ганарар — чатырыста "сталінскіх" рублёў. За іх сястра купіла мне прыстойны касцюм, у якім я потым прыехаў у Мінск вучыцца.





Напэўна, "Вясёлка" паспрыяла таму, што ў чэрвені 1960 года мяне выклікалі на рэспубліканскую нараду дзіцячых пісьменнікаў. Аднак сустрэцца з жывымі пісьменнікамі не ўдалося: якраз здаваў экзамены. Але тым летам мне ўсё ж пашанцавала: я пабываў у рэдакцыі "Вясёлкі", дзе ўпершыню ўбачыў Янку Маўра, чыімі творамі зачытваўся змалку, Васіля Вітку, Артура Вольскага, знаёмага па рэдакцыйных лістах Алеся Пальчэўскага.

Неўзабаве я стаў у "Вясёлцы", як кажуць, сваім. Мае вершы пачалі друкавацца ў ёй усё часцей і часцей. І да гэтага часу — свой. Нават больш — працую тут.

На ўсё жыццё запомніўся ўрок Васіля

# Жыві 100 год!

Дарагая рэдакцыя!

Раней мне самой выпісвалі "Вясёлку", а з мінулага года я чытаю яе для сваёй сястрычкі. Неяк па радыё пачула, што "Вясёлцы" спаўняецца 40 год, і вырашыла вам напісаць. А на стале перада мной — нумары часопіса за 1996 год.

Адразу скажу, што больш за ўсё мне падабаюцца вершыкі. Усе такія складненькія, вясёлыя! І з іх пра многае можна даведацца. Сяргей Грахоўскі, напрыклад, расказвае пра баброў (N 4) — і як норы рыюць у глеі, і з чаго будуюць хаткі, і якія ў іх хвасты, і чаму яны не захлынаюцца ў вадзе. Заканчваецца верш вельмі забаўна:

***Каля рэчкі, як карціна, —***
***Хата, новая плаціна,***
***Да вясновае пары***
***У цяпле жывуць бабры.***
***Да вярбы прыбіты лоўка***
***Указальнік:***
***в. БАБРОЎКА.***

Маладзічок з верша Паўла Саковіча (N 5) то бадаецца, як козлік, то чэша лбом аб хмарку, то высякае капытцам зорны пыл. Так і ўяўляеш яго, гарэзу... У тым жа нумары высыпаў з меха прыказкі Васіль Вітка. Хоць ён і не быў народным паэтам, але пісаў, як народны, і як памёр, дык наша настаўніца плакала. Вось адна з яго вершаваных прыказак:

***Гультай не любіць тры пары.***
***Уранні — росна,***
***Удзень — млосна,***
***Увечары — камары.***

Проза ў "Вясёлцы" бывае рознай. Ёсць проста казкі (яны цікавейшыя), а ёсць усялякія жыццёвыя гісторыі, часцей пра звяроў. А калі пра дзяцей, дык самае звычайнае, просценькае. Мабыць, яны думаюць, што ў нас адны гульні наўме і ўсё заўсёды добра. Што мы не сварымся, не зайздросцім, не робім шкоды і не атрымліваем ад бацькоў прачуханцу. Можа, пра ўсё гэта проста забаронена пісаць для малодшых школьнікаў? Каб мы думалі, што жыццё — суцэльнае свята? Праўда, у адным апавяданні расказваецца, як хлопчык раўнаваў бацькоў да новаароджанай сястрычкі, але аўтар чамусьці не назваўся. Пасаромеўся ён, ці што?

Здаецца, ніхто не напісаў, што малых нельга біць, што ў дзяцей таксама ёсць правы. Часцей успамінаюць пра сваё маленства, пра розныя здарэнні. Адзін, скажам, апісвае, як ля сцяны барана стаяла і ён пачаў па ёй уверх лезці. (Што такое "барана" я ўжо ведала з "Музея "Вясёлкі"). Тая барана вазьмі ды кульніся ў снег. Здавалася б, з кожным можа быць. Я сама летам са стога звалілася. Але ў канцы гэтай гісторыі І. Шамякін сказаў вельмі разумныя словы: "Калі добра пастарацца, то можна і самому выбрацца з бяды. Але калі бяда вялікая, то кліч на дапамогу людзей. Людзі дапамогуць". На жаль, дарослыя падчас самага галоўнага нам і не гавораць...

Бывае так, што аўтар піша нібыта пра звяроў, а на самай справе — пра людзей. Барыс Сачанка ў 5-м нумары расказаў пра двух сабак. На прагулцы сустрэліся беленькі, чысценькі, дагледжаны Джульбарсік і бяздомны, аблезлы, з падраным вухам ягоны сабрат. Забыўшыся на смачныя костачкі і ўтульную канапку, бабулін пястун кінуўся ўслед за дварняком — яго клікала воля. Мабыць, воля — нешта надзвычай важнае, калі з-за яе можна забыцца на ежу і пасцель... Шкада толькі, што мастачка гэтых сабак — бабулінага і нічыйнага — намалявала падобнымі. Ці ж яна не бачыла, якімі худымі і няшчаснымі бываюць бадзяжкі?! Ды што бадзяжкі! Цяпер і людзям нялёгка жывецца. Здараецца так, як у вершы Міколы Чарняўскага (N 6):

***Кажа дзед***
***Унуку Жэню:***
***— Пуста, Жэня, у кішэні!***

Дарагія пісьменнікі! Вядома, што ў дзяцей — дзіцячае жыццё, а ў дарослых — дарослае, але яны так часта пераплятаюцца. Мы ўсё роўна ўсё ведаем — што трэба і што не трэба, дык не хавайце ад нас праўды. Болей пішыце пра сённяшні дзень, пра новае ў ім. Людміла Рублеўская, напрыклад, прыдумала сучасную казку пра мышку Пік-Пік, якая ўбачыла на абгортцы жуйкі Мікі-Маўса і захацела з ім пасябраваць. Праўда, у мышкі нічога не выйшла... Уладзімір Ліпскі таксама назіральны, і дзед з яго, мабыць, класны. Бо ўсё, што ён бачыць і чуе дома, гуляючы з унукамі, становіцца апавяданнямі. Адно мяне асабліва кранула — "Машына часу" (N 3). У ім стары чалавек ажно заплакаў, расказваючы ўнуку, як вёскі ў вайну гарэлі...

Даір Слаўковіч ("Як язычок пакаралі", N 10), ужывае новае для нас слова "фанендаскоп" — трубка, якой слухаюць людзей дактары. Пастараюся запомніць яго. А язычок пакаралі, таму што ён схлусіў. Так яму і трэба! Нездарма мышка-манюка з казкі Івана Бурсава ўсіх звяроў у зман увяла, а пасля на ўласную хлусню і папалася.

Падабаюцца мне і вершы Ніны Галіноўскай:

***Каза купіла "Мерседэс",***
***З казлом паехала у лес.***
***Пакуль яны грыбы збіралі,***
***Машыну гномікі укралі.***

*("Вінаваты гномікі", N 3)*




*...“Холодно, не любяще берущий женщину мужчина чем-то подобен убийце — столь же холодно расчетлив, безжалостный и бесчувственный”.*

Алесь Адамовіч, “Записные книжки разных лет (1945—1969)”. — “Нёман”, 1997, N 1, с. 10.

# Покліч інтэлігентнасці, альбо Амаль святочнае

У наш урбанізаваны час, які ўжо зашмат увабраў у сябе раўнадушнай стрыманасці не лепшым чынам цывілізаванага грамадства, усё яшчэ самымі адметнымі рысамі большасці беларусаў застаюцца і адкрытасць, і прастадушная добразычлівасць, і дзіцячая безабароннасць (асабліва перад наступам уладаў). Нашу нацыянальную адкрытасць вельмі часта можна назіраць сярод незнаёмых людзей, і асяроддзю такому найбольш спрыяе дарога. Бывае, што чалавек, пакінуўшы дома цяжар адносін на побытавым узроўні, раскрывае адразу, як цёплым вільготным ранкам далікатная ружа свае заціснутыя пялёсткі, скарбы спрадвеку справядлівай прыгожай душы. Іншы, бывае, не адразу пераадольвае свае ці то панурасць, ці то сціпласць, ці то сарамяжнасць. Ягоным думкам патрэбны штуршок, дапамога, каб яны, як цягнік, хутчэй набіралі ход. І тады пальюцца і споведзі-маналогі, і агульныя разважанні, перасыпаныя прыкладамі жыццёвых гісторый, і глыбакадумныя замалёўкі мімаходзь...

Адна з пасажырак прыгараднага аўтобуса, выслухаўшы да канца самотна шчымлівыя інтэлектуальна вытанчаныя парады і пажаданні таленавітай журналісткі радыёперадачы “Для тых, хто дома” Алены Сцяпанавай аб любові, каханні, якія прыглушана даносіліся з кабіны вадзіцеля, пачала свае разважанні:

— Хлопцы і мужчыны халастыя цяпер не спяшаюцца сям’ёй абзаводзіцца. А дзеўкі, кабеты, наадварот, ухваціць сабе добрага мужа найхутчэй хочуць; каб не піў, не курыў, зарабляў многа грошай, дапамагаў у хатніх справах. Так чулліва паміж сабою пра любоў гутараць, па сямейным шчасці сумуюць. Добра ж, калі ўсё добра абходзіцца. Перадавалі, што стала вельмі многа хворых на сіфіліс. Раней не было такой распусты. Ёсць нейкае племя. Па нашых мерках, племя — значыцца, дзікуны. А гэтыя дзікуны і цяжарную жанчыну, і калі родзіць (пакуль у сілу ўвойдзе і дзіця падгадуе) мужчына не чапае, некалькі гадоў шануе, увесь час трымаючы і сябе ў чысціні. Але ж там ядуць раслінную ежу і многа працуюць фізічна. А ў нас? Панапіваюцца, панаядаюцца мяса і, не выпрацаваўшыся як след, дарабляюць абы-што. Хоць у клеткі закоўвай іх, і мужыкоў, і баб. Невядома, хто большыя дзікуны, племя тое ці нашы...

Чамусьці адразу прыйшло на ўспамін даўняе, недарэчнае (як на той час падалося) пытанне А. Каравулава ў “Моманце ісціны” да таленавітага акцёра, ці можа той параспаць з прастытуткай. Ва ўяўленні многіх, верных, адданых свайму мужу, сям’і прыстойных жанчын прастытутка — гэта не толькі адзінокая начная спакусіцелька. Больш прыкрая за яе ім тая, што здраджвае свайму мужу і разбэшчвае чужога, нават часам непасрэдна на службе апантана падпадаючы пад нястрыманасць безразборнага ненатольнага савакупніка. “Ні ў якім разе”, — адказаў на тое пытанне стары інтэлігентны чалавек, спаслаўшыся на сваю гідлівасць, але адначасова зазначыўшы, што катлету, падняўшы з падлогі, ён можа з’есці без гідлівасці. Нізкі паклон Вам, чыстыя душой інтэлігенты!..

28 лютага чытачоў нечакана вельмі парадаваў “ЛіМ” сваім юбілейным (з нагоды 65-годдзя) выпускам. Шчырае дзякуй! Светла, сонечна, змястоўна пададзены ўспаміны, памкненні, накірункі. Які цудоўны калейдаскоп аўтараў, тэкстаў! Хай заўсёды прысунічаюць сярод Вас, шаноўныя лімаўцы, святочнасць, узнёсласць, радасць душы! Думаю, што не толькі ў мяне запланаваныя на гэты дзень сямейна-гаспадарчыя справы адразу змізарнелі, здаліся нязначнымі, другараднымі. Пачалося “заглынанне” адной старонкі за другой. Але чаму раптам стала так няўтульна душы? Быццам нічога асаблівага не здарылася, звычайная характарыстыка, напэўна ж не беспадстаўная, калі размова ідзе пра канкрэтнага знакамітага чалавека. “Супакойся, — загадваю сабе, — тым больш, што аўтар папярэджвае і аб магчымай недакладнасці, неабходнасці дапрацоўкі. Ці ж не разумееш, ці не заўважала сярод асобных творцаў распаўсюджанасць такога допінгу, даступнага, беспакаранага (Божая кара для многіх яшчэ — смешны прывід)... Да таго ж, аўтарымужчыны часам любяць паказытаць жарсці свайго брата “салёнымі” прыёмамі.

“...Ён неаднойчы ўпарта, нібыта бык на чырвонае, ішоў на жанчыну, авалодваў ёю, прадчуваючы, як прагна пасля гэтага кінецца ў свет колераў і святла, як апантана будзе пісаць, пісаць, як кахаць, і гэтак бывала, пісаў, як кахаў, пераліваў вар’яцкае пачуццё з аднаго сасуда ў другі сасуд..” (с. 13).

Многія старажытныя творцы (хочацца спадзявацца, што і цяпер такія не перавяліся), перад тым, як брацца за значную працу, доўга пасціліся, многа маліліся.

“Госпадзе Ісусе Хрысце, Адзінародны Сыне Беспачатнага Твайго Айца, Ты сказаў Сваімі найсвяцейшымі вуснамі: “Без Мяне вы нічога ня можаце зрабіць”. Госпадзе мой, Госпадзе, прыняўшы вераю гэтыя святыя словы Твае ў сэрца й душу маю, я звярачаюся да Твае дабрыні і прашу Цябе: памажы мне грэшнаму ў гэтай маёй працы, што цяпер пачынаю, як для Цябе Самога яе выканаць, у імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Амін.

Альбо коратка: “Госпадзе, дабраслаў”. — “Беларускі праваслаўны малітоўнік”, — Таронта, 1990.

Як сведчыць паданне, пад моцным уражаннем здзейсненага Ісусам Хрыстом першага цуду ў Канах па ператварэнні вады ў віно жаніх стаў угаворваць нявесту адмовіцца ад плоцкага сужыцельства, каб цалкам аддацца служэнню Месіі. Абранніца аказалася годнай свайго жаніха і з радасцю пагадзілася. Сярод вучняў Хрыста з’явіўся новы — Сімон Кананіцкі ці Зілот, будучы Апостал. Нявеста яго пайшла за Багародзіцай, была потым у ліку жанчын-міраносіц, якіх услаўляе Царква. (Паводле звестак у кн. Іераманаха Філадэльфа “Заступница усердная”). Кніга вытрымала ўжо не адно выданне.

Паўней завяршыць распачатую тэму дапаможа, напэўна, пераказ яшчэ аднаго дарожнага маналога: “Напярэдадні Стрэчання пазваніла мне сяброўка, — пачала сваю гаворку сярэдніх гадоў жанчына з мяккімі, спагадлівымі рысамі твару, былая настаўніца, выкладчыца нядзельнай царкоўнай школы, — паведаміла, што пахавала сваю маці, што амаль мільён давялося пазычыць грошай, бо на памінках было больш за 100 чалавек — з усіх вёсак сабраліся п’яніцы на дармаўшчыну. На жаль, грашыма дапамагчы сяброўцы сваёй я не магла, а памаліцца за яе нябожчыцу-маці палічыла за абавязак і паспяшалася ў царкву. Заадно вырашыла купіць наперад некалькі свечак і для асвечвання ў дзень свята. Напэўна, убачыўшы ў мяне ў руках пучок свечак і, мабыць, вылічыўшы за грашаўную кабету (хоць з маёй сціплай вопраткай гэта не суадносіцца), да мяне падышла жанчына і папрасіла грошай “хотя бы на хлеб”. У маім кашальку заставаўся мізэр. Аддала, растлумачыўшы, што гэта ўсё, што маю з сабой, што і дома грошай не густа, але, дзякуй Богу, ёсць сёе-тое з гародніны, магу падзяліцца, тым больш, што жыву недалёка. Жанчына ўзрадавалася, ажывілася парэпаным маршчынамі тварам, некалькі разоў, хрысцячыся, пала ніц перад абразамі Божае Маці. Узнялася з непасуючай такому занятку фрывольнасцю. Какетліва падціснуўшы губы, нацянула глыбей бруднашэрую штучную злямчэлую шапку, заправіла пэйсы яркіх рыжых валасоў, зашпіліла гузік на выскубленым пясцовым, гэткім жа бруднашэрым, як і шапка, каўняры, што шырока слаўся перад зашпільваннем па зашмальцаваным зялёным паліце, і выказала гатоўнасць ісці. Ідзём побач бакавою сцяжынкай. Я запытала ў яе, з кім жыве, ці часта бывае ў царкве. Яна адказала, што жыве адна, але ёсць дачка з дзіцем, у разводзе і беспрацоўная. У царкву ходзіць рэдка, бо яе сатана не пускае... У гэты час наперадзе паказаўся мужчына, які ішоў нам насустрач. Яна — шась за мяне, схавалася і загадвае: “Не гаварыце нічога, каб ён не пачуў ні слова”. Мужчына прайшоў, і яна зноў, больш загадала, чым папрасіла, прыпыняць размову пры з’яўленні кожнага новага пешахода-мужчыны. На маё запытанне, у чым справа, больш папракнула, чым патлумачыла, што я нічога ў жыцці не разумею, а на свеце “много сатанов” і кожны мужчына — гэта таксама сатана. “Так ужо і кожны, — перабіваючы, запярэчыла я, стараючыся пераканаць, што такога не можа быць, — я ведаю шмат прыстойных інтэлігентных мужчын, большасць з іх набожныя, а дзе сапраўдныя і інтэлігентнасць, і набожнасць, там няма месца сатане, там Святы Дух спачывае на чалавеку”. З непрыхаванымі болем і крыўдаю жанчына ці то дапоўніла свае думкі, ці то маім адпарыравала: “Як жа, сваіх жоначак шкадуюць, а над чужымі здзекуюцца, як захочуць...” Дык вось на грунце чаго такая неадэкватнасць яе псіхічнага стану...



Некалькі разоў яшчэ жанчына хавалася-маскіравалася такім чынам, прагнучы быць незаўважанай. “Няшчасная, — услых паспачувала я ёй, выказваючы сваю дагадку, — як жа многа вам, мабыць, дапяклі гэтыя “мужчыны-сатаны” і як жа ўсё яшчэ вы залежыце ад іх, калі баіцеся паказацца на вочы ім у такім выглядзе, баіцеся, каб не пазналі...” Яна не аспрэчвала, толькі неяк непрыхільна скасавурылася на мяне, на мой шлюбны пярсцёнак, маўляў, няма пра што гаварыць мне з табою. “Але ж я абяцала завесці яе дадому, нават пакарміць думала чым-небудзь са сваіх няхітрых спажыткаў. Як жа перасіліць мне пачуццё агіднасці, узніклага недаверу...”

Незадоўга да гэтай сустрэчы я чытала “Дзеянні Апосталаў”. І цяпер прыйшлі на ўспамін словы Апостала Пятра, тое, як Бог адкрыў яму не лічыць ніводнага чалавека агідным, нячыстым... І тут я пачала бязлітасна дакараць сябе: “Наступны тыдзень па Стрэчанні мытара і фарысея. Успомні, каму даравала Гасподзь! Баішся апаганіцца? А сама? Трыццаць гадоў твой нявенчаны муж перад Богам быў табе ўсяго толькі сужыцель. Менавіта так Царква ўспрымае грамадзянскі шлюб без вянчання. Чым адрознівалася ты ад гэтай жанчыны? Ты, мажа, яшчэ значна горшая за яе! Успомні першыя гады свайго замужжа: было, неаднойчы было, што мужа любіла болей, чым Бога, уступаючы пажадлівасці мужа ў недапушчальныя па хрысціянскіх законах дні. Успомні вяртанне мужа з камандзіроўкі ў дзень Вялікай Суботы. Хоць і схамянулася (Анёл-захавальнік быў яшчэ побач з табой, але ж адштурхнула, адштурхнула яго, а не мужа). І той грэх, тое падзенне, як са слізкай гары спыніць было немагчыма. Толькі страх перад Богам усё далей ад сябе адганяла (усё ж ведала, трывалай была навука набожнай бабулі). Зусім заспакоілася, калі па тым часе кары не адбылося. Маладосць, маладосць, як неабходны табе пільны дазорны і паслухмянасць мудрым, старэйшым, каб адвесці бяду і на перспектыву. Кара прыйшла значна пазней: за гэты грэх, ці за іншыя, але ж пажыццёвай пакутай стала прыгожая і тварам і душою крывінка-дачка, пакінутая нахабным жорсткім каханкам. Лічы (не пералічыш!) колькі разоў ты, акаянная грэшніца, як касой вынішчала любоў да бліжніх сваёй нецярпімасцю, ды і на сённяшні дзень нярэдка бываеш іржавай пілою, аддаючы перавагу жыццёвым дробязям. Чаго вартая ты ў гневе, ты, з прэтэнзіяй на інтэлігентнасць? Якая ж пацеха ад цябе чалавечаму ворагу, і ён (з-за цябе) яшчэ больш насядае на бліжніх тваіх, самую цябе. Як жа здраджваеш ты свайму Творцу, Збавіцелю...”

Жанчына, ці то адчуўшы мой нялёгкі душэўны стан, ці то па нейкіх іншых матывах, прапанавала пачакаць (пакуль вынесу, што збіралася) каля прыпынку, да якога мы падыходзілі, пастаяць, зноў-такі, у баку ад людзей...

Дапамажы, Божа, усім зняважаным жыццём і мужчынамі сучасным жанчынам не адчуваць сябе пацяробкам на сметніку, а з пачуццём годнасці, жаночай годнасці крочыць насустрач і людзям, і лёсу, і Табе, Госпадзі, і ў імя прыстойнай будучыні гаротнай Айчыны, у імя шчаслівага лёсу ўласных дзяцей хутчэй прынесці на алтар ачышчэння свае пакаянні і болей не коўзацца на тонкім лёдзе распутнай грахоўнасці, бо пад ім — прадонне пякельнае.

Госпадзі Ісусе Хрысце Сыне Божы, уратуй грэшны люд беларускі.

**Ларыса РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намесніці галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 17.4.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2240/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12